ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

17 КАСТРЫЧНІКА 2003 г. № 42/4227

*Што робіцца і ўжо зроблена для ўвекавечвання імя народнага артыста Беларусі Уладзіміра МУЛЯВІНА і захавання яго музычнай спадчыны?*


2-3

*Пачалося актыўнае жыццё на экране новай кінастужкі "Анастасія Слуцкая", якая заняла прыкметнае месца ў культурнай плыні нашай рэспублікі.*


11

# З друкарні Марціна Кухты

**8 снежня 2003 года ў Мінску ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбудзецца Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Я не самотны, я кнігу маю...", прысвечаная 90-годдзю адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў Максіма Багдановіча "Вянок".**

*НА ЗДЫМКУ: загадчыца філіяла Літаратурнага музея Максіма БАГДАНОВІЧА "Беларуская хатка" Таццяна ШАЛЯГОВІЧ.*

*Фота М. ЗАМУЛЕВІЧА*

Стар. 4

# КОЛА ДЗЁН

**14 кастрычніка ў Крамлі прайшла чарговая сустрэча Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна. Паміж Прэзідэнтамі адбылася шчырая і зацікаўленая размова па праблемах будаўніцтва Саюза дзвюх дзяржаў.**

## ВУЧЭННІ ТЫДНЯ

У нашай краіне ў адпаведнасці з планам падрыхтоўкі Узброеных Сіл Беларусі прайшлі комплексныя аператыўныя вучэнні "Чыстае неба — 2003". Падобныя вучэнні праводзіліся ўпершыню. Асноўны акцэнт у іх правядзенні рабіўся ў выкарыстанні Ваенна-паветраных сіл і Войскаў супрацьпаветранай абароны.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

З 18 кастрычніка на частотах, што выкарыстоўваюцца для вяшчання абласных тэлерадыёкампаній, пачне вяшчанне новы сямейны тэлеканал "ЛАД" Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь. Паколькі тэлеканал "ЛАД" выкарыстоўвае творчую і тэхнічную базу абласных тэлерадыёкампаній, то эфір будзе пабудаваны такім чынам, каб рэгіянальныя і рэспубліканскія блокі былі лагічна і гарманічна звязаныя. У сталіцы тэлеканал "ЛАД" пачне сваё вяшчанне на перадатчыку, дзе зараз рэтранслюецца тэлеканал "Культура".

## СУМЫ ТЫДНЯ

У сувязі са змяненнем базавай велічыні пералічана шкала ставак падаходнага падатку ў лічбавым вымярэнні. Новая шкала зацверджана пастановай Міністэрства па падатках і зборах Беларусі. Цяпер падаходны падатак па стаўцы 9 працэнтаў абкладаецца сукупны гадавы даход у памеры да 3402000 руб. Калі даход складзе ад 3402000 да 8505000 руб., то трэба будзе заплаціць 306180 рублёў і 15 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 3402000 руб. Максімальная, 30-працэнтная стаўка прымяняецца, калі гадавы даход перавышае 15309000 руб. Тады падатак складзе 2602530 рублёў плюс 30 працэнтаў з сумы, якая перавышае "верхнюю мяжу" (15309000 руб.).

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

100 мільёнаў рублёў у год — прыкладна столькі выдаткоўвае Мінскі гарвыканкам на будаўніцтва новых станцый сталічнага метро. Узвядзенне першай станцыі пачалося яшчэ ў 1977 годзе і на сённяшні дзень у Мінску дзейнічаюць дзве лініі працягласцю 25 кіламетраў : "Інстытут культуры" — "Усход" (9 станцый) і "Пушкінская" — "Маскоўская" (11 станцый). Зараз у стадыі будаўніцтва знаходзяцца адразу два ўчасткі падаўжэння існуючых ліній метро. Першы — ад "Пушкінскай" да станцыі "Каменная Горка" працягласцю 3,8 кіламетра з трыма станцыямі ("Спартыўная", "Кунцаўшчына", "Каменная горка") будзе здадзены ў 2005 годзе. Другі ўчастак падоўжыць лінію ад станцыі "Усход" да "Уручча", дзе будзе дзве станцыі ("Барысаўскі тракт" і "Уручча"). Будаўніцтва плануецца завяршыць праз 5 гадоў. Паводле Дзяржплана Мінска, распрацаваным да 2030 года, сетка сталічнага метро працягнецца на 59 кіламетраў і дапоўніцца яшчэ дзвюма лініямі: адна звяжа паміж сабой паўночныя і паўднёвыя раёны праз цэнтр горада, другая злучыць Вяснянку з Чыжоўкай. Перакрыжаванне ліній метро ўтворыць перасадачны трохкутнік (Станцыі "Кастрычніцкая" — "Плошча Леніна" — "Фрунзенская"), які дасць магчымасць даехаць у любую частку горада з адной перасадкай.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

З 1 кастрычніка ўведзены новыя тарыфы на праезд пасажыраў у аўтобусах рэгулярных маршрутаў прыгарадных зносін. Тарыф за адзін кіламетр праезду пасажыра па звычайных маршрутах складзе ад 34 да 36,7 рубля, на хуткасных маршрутах — ад 44,2 да 47 рублёў, па дадатковых рэйсах — ад 45,9 да 48,7 рубля, на экспрэсных маршрутах — ад 51 да 54,3 рублі ў залежнасці ад камфортнасці аўтобуса. З 2 кастрычніка падаражэў праезд у сталічным камунальным транспарце. Цяпер адна паездка пасажырам абыходзіцца ў 250 рублёў, а пры продажы вадзіцелем — у 300 рублёў. Ільготны білет каштуе 125 рублёў.

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Як паказалі апошнія даследаванні, вірус смяротна небяспечнага гепатыту С можа перадавацца значна прасцей, чым раней меркавалі ўрачы. Вучоныя выявілі ў сліне інфіцыраваных людзей сляды віруса. Гэта значыць, што заразіцца гепатытам можна пры пацалунку ці карыстаючыся чужой зубной шчоткай.

## ЗВАННЕ ТЫДНЯ

Гарадская ластаўка стане птушкай 2004 года — пра гэта рашэнне прыняла рэспубліканская грамадская арганізацыя "Ахова птушак Беларусі". Кампанія "Птушка года" стала ўжо традыцыйнай. У гэтым годзе такое званне носіць дамавы верабей, а яго папярэднікамі былі івалгі, белая сітаўка і бусел. Мэта правядзення акцыі — прыцягнуць увагу да распаўсюджаных птушак, якіх чалавек пастаянна бачыць, але амаль нічога пра іх не ведае.

## ЗАЎСЁДЫ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА!

Шаноўныя чытачы! На "ЛіМ" ніколі не позна падпісацца. Кошт індывідуальнай падпіскі на 1 месяц — 2500 рублёў. Індывідуальны індэкс — 63856. Кошт ведамаснай падпіскі на 1 месяц — 4000 рублёў. Ведамасны індэкс — 63857.

ВАРУНКІ

***Што робіцца і ўжо зроблена для ўвекавечвання імя народнага артыста Беларусі Уладзіміра Мулявіна і захавання яго музычнай спадчыны? Што адбываецца вакол ужо легендарнага імя створанага ім ансамбля "Песняры"? Адказы на гэтыя пытанні спрабуе знайсці карэспандэнт "ЛіМа".***



# «ПЕСНЯРЫ» АД ВІА ДА БРЭНДА

●

"Помнік нерукатворны" Уладзімір Мулявін меў ужо, можна сказаць, пры жыцці.

Яго талент зрабіў рэвалюцыю не толькі ў сферы папулярнага беларускага музычнага мастацтва, а і ў свядомасці "масава несвядомых" беларусаў, абудзіўшы ў іх нацыянальную годнасць, цікавасць да сваіх песень і амаль страчаную на той час павагу да роднага слова.

Яго творчасць успрымалася як беларуская песенная класіка дваццатага стагоддзя.

Яго "Песняры" заслужылі слушны эпітэт — "легендарныя".

Яго асоба была ўшанаваная адмысловым знакам на Плошчы Зорак у Маскве.

Яго ансамблю, каб не сказаць, персанальна яму, прызначаўся будучы Нацыянальны цэнтр музычнага мастацтва — з новым памяшканнем па вуліцы Сурганава ў Мінску (лічы, непадалёк ад мулявінскага дома) і сучасным студыйным абсталяваннем. Там усё рыхтавалася да прыходу гаспадара, хаця стан яго здароўя пасля недарэчнай леташняй аўтакатастрофы пакідаў надзею хіба толькі на цуд...

Сёння, як вядома, стварэнне унікальнага цэнтра завяршаецца. Яму нададзена імя Уладзіміра Мулявіна, у адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта наконт увекавечвання памяці выдатнага музыканта. Наогул жа, сімвалічны помнік "песняру" ўлучае ў сябе добры тузін спраў, разлічаных не на адзін год.

Нямала зроблена ўжо сёлета. Напрыклад, заснаваныя прэміі імя У.Мулявіна ўпершыню ўручаліся ўдзельнікам Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2003" і Міжнароднага свята мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", атрымаюць узнагароды і спаборнікі новага конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні імя У.Мулявіна на традыцыйным "Залатым Шлягеры" ў Магілёве. Устаноўленая стыпендыя імя У.Мулявіна будзе выплачвацца студэнтам БДУ культуры.

Сёлета ж выйшлі ў свет чатыры дыскі запісаў ансамбля "Песняры" (прэзентаваліся падчас фестывалю "Славянскі базар"). І гэта толькі частка эксклюзіўнай серыі, замоўленай да выпуску Беларускім інстытутам праблем культуры: такіх "кампактаў" мае быць каля 20. Рыхтуюцца тут і мультымедыйныя выданні.

Што й казаць, яго імя дарагое і незабыўнае для многіх: ці то як напамін пра ўласную маладосць, ці то як знак эпохі, ці то як сімвал самаадданасці ў мастацтве, узор вялікага таленту і працавітасці. Таму, відаць, не толькі сумленным стаўленнем да выканання адказнай задачы, а і павагай, любоўю, энтузіязмам самых розных людзей жывяцца справы ў памяць "песняра".

Белвідэацэнтр назапашвае матэрыялы для фільма, над якім працуе рэжысёр Валерыя Скварцова. Пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара газеты "Культура" Людмілы Крушынскай збіраецца кніга, на старонках якой асоба У.Мулявіна living рознабакова раскрыецца ва ўспамінах калег, сяброў, у дакументах, у яго колішніх уласных развагах, запісаных інтэрв'юерамі, і да т.п.

У Беларускай дзяржаўнай філармоніі пасля завяршэння рамонтных работ з'явіцца мулявінскі музей. На доме па вуліцы Л.Бяды, дзе жыў музыкант, будзе ўстаноўлены мемарыяльны знак. А вось чуткі наконт перайменавання гэтай вуліцы пакуль не пацвярджаюцца -- прынамсі, міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка іх абвяргае. І наогул выказваецца супраць таго, каб імя вядомай асобы, якім названая вуліца, замянялася імем іншага шаноўнага чалавека.

Вуліца Мулявіна павінна з'явіцца ў Мінску да 1 студзеня 2005 года -- так што ёсць час не толькі для роздуму і выбару, але і для пракладкі новай сталічнай магістралі.

●

Пры яго жыцці здарыўся, на жаль, і раскол ансамбля, вынікам чаго стаў новы калектыў "Беларускія песняры" з колішнімі спадзвіжнікамі Мулявіна -- Уладзіславам Місевічам ды Валерыем Дайнекам. Зрэшты, ва ўсім цывілізаваным свеце гэткія вытворча-творчыя "злюбы" ды "разводы" на музычнай эстрадзе, за кулісамі шоу-бізнесу, сярод рок-гуртоў і да т.п. -- рэч заканамерная. Ды ў нас, як вядома, іншыя варункі: ансамбль "Песняры" мае і статус дзяржаўны, і адпаведнае фінансаванне сваёй дзейнасці, апякуецца на самым высокім узроўні, таму і мусіць жыць паводле законаў дзяржаўнай установы. Вось і не зарэгістравана ў Беларусі назва новай музычнай суполкі. Яе чыннікам, здаецца, не заставалася нічога іншага, як знайсці на пасаду дырэктара грамадзяніна Расіі ды зарэгістравацца ў Маскве як "ООО "Беларускія песняры" (ці,мажліва, — "Белорусские"?).

А на пачатку сёлетняга верасня СМІ распавялі пра новы разлад у "Песнярах". Сітуацыя выглядала так, нібыта калектыў выказаў аднадушную нязгоду з прызначэннем яго артыста Валерыя Скаражонка на пасаду кіраўніка ансамбля і ў знак пратэсту ўсе іншыя "песняры" падалі заявы на добраахвотнае звальненне. Пры гэтым яны мелі на мэце ўкамплектаваць свой склад ансамбля, назваўшыся "Песняры" імя У.Мулявіна".

Міністр культуры, сустрэўшыся з журналістамі 10 верасня, аспрэчыў гэтую інфармацыю як няпраўдзівую.

Удакладнім гісторыю чарговага канфлікту?

Апошнім часам У.Мулявін сумяшчаў працу мастацкага кіраўніка з абавязкамі дырэктара ансамбля. Цяпер жа ў Міністэрстве культуры палічылі мэтазгодным гэтыя функцыі падзяліць, стварыўшы дзве пасады. На пасаду дырэктара прызначылі В.Скаражонка – чалавека, як мяркуюць у міністэрстве, здатнага весці фінансава-гаспадарчую дзейнасць у адпаведнасці з дзяржаўным статусам калектыву. Кантракт з новым дырэктарам падпісаны на год. Для вырашэння бягучых творчых праблем быў прызначаны музычны кіраўнік, таксама «пясняр»,-- Вячаслаў Шарапаў. А вось пасада мастацкага кіраўніка пакуль засталася вакантнай: няма замены унікальнаму таленту, нават сярод ветэранаў ансамбля не вылучыўся абсалютны лідэр, які б мог лічыцца пераемнікам Мулявіна.

Адпаведна распараджэнню міністра, сп.Скаражонак заняў пасаду дырэктара 28 ліпеня 2003 г. Палічыўшы, відаць, што ён прэтэндуе на ўмяшальніцтва ў творчы працэс, артысты звярнуліся з адкрытым лістом да кіраўніцтва краіны. А 3 верасня намеснік дырэктара сп.Свечкін падпісаў загад аб звальненні ўдзельнікаў калектыву па іх уласным жаданні. Былі раздадзены працоўныя кніжкі з адпаведным запісам. Ды нягледзячы на гэта Мінкульт адмяніў загад сп.Свечкіна як незаконны: у ансамблі ўжо быў дырэктар, а

наместнік, парушыўшы субардынацыю, дзейнічаў нават без яго ведама.

Потым пайшлі чуткі, нібыта некаторыя з артыстаў пашкадавалі аб сваім учынку і выказалі жаданне працаваць у ранейшым складзе. Але хто даў бы гарантыю, што новаму дырэктару не давялося б урэшце застацца сам-насам толькі з шыльдай «Песняры»?

Дарэчы, гэтая назва як абаронены законам «таварны знак» замацаваная за дзяржаўным ансамблем, таму ён не можа займець нейкага двайніка і мусіць адпаведным чынам ладкаваць адносіны з дзяржавай. А тая ў сваю чаргу павінна бараніць гонар яго «мундзіра». Вось чаму Міністэрства культуры тэрмінова стварыла экспертную раду ў складзе знаных музычных дзеячаў краіны, выдатных практыкаў, сярод якіх Уладзімір Ткачэнка, Аркадзь Эскін, Леанід Захлеўны, Эдуард Зарыцкі, Міхал Казінец, Юрый Гільдзюк. Рада мусіла «даць рады» ў крызіснай сітуацыі, паспрыяць перастварэнню, абнаўленню ансамбля.

І – што ж?

•

Забяспечыць лад у «Песнярах» -- ну хаця б на нейкі час – аказалася для галоўнага культурнага ведамства краіны задачай нумар адзін. Але якой бы архіважнай ні была дзяржаўная задача -- ні творчага генія, ні таленавітага лідэра без Божай дапамогі не народзіш. Калісьці гаварылі: «Песняры» -- мелі на ўвазе: «Мулявін», і наадварот. Але другога Мулявіна не будзе... Балазе, у выніку абвешчанага Мінкультам конкурсу салістаў і музыкантаў удалося сабраць новы склад ансамбля, пра што 30 верасня рапартавала БТ: «Новыя «Песняры» зацверджаны сёння...» Стаўка рабілася на моладзь. «Старажыламі» сярод «песняратак» (усяго іх восем) пачувае сябе дырэктар – В.Скаражонак, якому давялося папрацаваць і з Мулявіным. Цяпер складаецца рэпертуар, шыюцца канцэртныя строі, сцэнічнае аблічча новых артыстаў распрацоўваюць стылісты, візажысты. Пры канцы месяца незнаёмыя «Песняры» выйдуць са сваёй першай канцэртнай праграмай да публікі... А месца мастацкага кіраўніка па-ранейшаму – вакантнае.

•

Падчас колішняй прэс-канферэнцыі міністр культуры падкрэсліваў, што асаблівыя спадзяванні на перспектыву звязаныя са стварэннем Нацыянальнага цэнтра музычнага мастацтва імя У.Мулявіна. Маўляў, сюды шлях адкрыты для ўсіх: для «Песняроў» і для «Беларускіх песняроў»; і для «Палаца», «Крыві», «Троіцы»; і для ўладальніка Гран-пры сёлетняга «Славянскага базару ў Віцебску» Максіма Сапацькова, і для лаўрэата гэтага ж конкурсу Уладзіміра Аўчарова, і для яго калегі па працы ў Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі, Дзмітрыя Качароўскага, калі яны, можа, захочуць папрацаваць у новых умовах. Але сваё творчае жыццё кожны, хто прыйдзе ў Цэнтр, вымушаны будзе прыстасоўваць да варункаў дзяржаўнага калектыву.

Між іншым, ці не быў нядаўні крызіс у «Песнярах» менавіта вынікам ігнаравання дзяржаўнага статусу? За тыя паўгода, што «Песняры» пражылі без Мулявіна, яны далі шмат канцэртаў, актыўна гастралявалі, ды выступленні былі пераважна камерцыйныя, кажучы проста – праца на ўласную кішэню. А на т.зв. норму адпрацоўкі прыпадаў мізэр: адпаведна паўгадавому плану, вызначанаму тагачаснай адміністрацыяй саміх «Песняроў», -- толькі 168 тыс. рублёў даходу ў дзяржаўную казну. Пры гэтым «раскручаныя», камерцыйна ўдачлівыя артысты за дзяржаўны кошт былі забяспечаныя ўсім: транспартам сцэнічным рыштункам, касцюмамі, адрамантаваным памяшканнем, студыйнай тэхнікай і – стабільнай заработнай платай (!).

Сёння ёсць выбітныя прыклады таго, як папулярныя музычныя гурты ладкуюць свае стасункі з дзяржавай: на аснове гаспадарчага разліку працуе студыя «Сябры» пад кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі; цалкам забяспечвае сябе, ні капейкі не ўзяўшы з бюджэту, «Троіца» Івана Кірчука. Ды і мулявінскія «Песняры» гадоў 15 таму зараблялі не толькі на ўласныя патрэбы, а і на тое, каб забяспечыць матэрыяльна-фінансавую базу для развіцця т.зв. некамерцыйных філарманічных жанраў, элітных формаў музычнага мастацтва, якія вызначаюць агульны ўзровень культуры кожнай нацыі. І гэта – нармальна. Ва ўсім свеце шоу-бізнес развіваецца і квітнее за кошт уласнай камерцыйнай дзейнасці, у жорсткіх умовах канкурэнцыі на рынку эстраднай індустрыі, поп-музыкі.

Цяжка без усмешкі ўявіць, напрыклад, што на ўрадавым узроўні разбіраліся б канфлікты ў ансамблі "ABBA" ці зацвярджаўся б склад легендарнай ліверпульскай чацвёркі. Аднак... Стоп! Не трэба забывацца, што "Песняры" – гэта не шоу-бізнес. Гэта – дзяржаўная структура. Дарэчы, колішні ВІА (абрэвіятура, якая ўспрымаецца ўжо як дрымотны анахранізм) хтосьці назваў нядаўна "легендарным брэндам". Паколькі ў многіх чытачоў яшчэ не пачалося актыўнае засваенне слова "брэнд", папярэджваю: яно не мае агульнага кораню з рускім дзеясловам "сбрендить", які знойдзеш нават у моўнай калекцыі У.Даля; "brand" – з лексікону амерыканскіх mass-media і азначае "назва тавару, камерцыйнага прадукта". Пра тое ж, каму належыць "таварны знак" легендарнага мулявінскага ансамбля, сказана сёння ўжо дастаткова.




У такім разе, гаворку можна завяршаць. Ды ўсё ж цікава, ці абмяркоўваецца, у якасці перспектывы, мажлівасць пераходу "Песняроў" на гасразлік?.. Месяц таму, адказваючы (і адказаўшы!) на ўсе роспыты ўедлівых журналістаў, міністр культуры толькі гэтае пытанне пакінуў адкрытым.

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

**НАДЗЁННАЕ**

# НЯЎЖО ГЭТА ШЛЯХ ДА РАЗВІТАННЯ?

На працягу апошняга месяца на старонках нашых газет, часопісаў, у тым ліку і "ЛіМа", было змешчана шмат артыкулаў, публіцыстычных выступленняў пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва па адной з важнейшых праблем — аб стане ідэалагічнай работы ў грамадстве, якая была ўзнята Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам на праведзенай ім нарадзе. Выказваліся і працягваюць выказвацца па пытаннях ідэалогіі адназначныя меркаванні аб тым, што значную ролю ў вырашэнні гэтай важнейшай праблемы ўсяго нашага грамадскага жыцця павінны адыгрываць літаратура і мастацтва, здабыткі ўсёй нашай нацыянальнай культуры. З гэтым нельга і не можа ніхто не пагадзіцца. Але мала хто з нас, мне здаецца, звярнуў увагу яшчэ на адно вельмі важнае пытанне — якую ролю, якое значэнне павінна адыгрываць у ідэалагічнай рабоце мова — не толькі літаратурная мова, на якой мы пішам, гамонім, а наогул родная мова народа, мова нашай суверэннай, незалежнай рэспублікі. Без нацыянальнай мовы, на якой ствараюцца раманы, песні, сімфоніі, паэмы, лепшыя творы прозы, паэзіі, музыкі нельга весці гаворку пра тое, якое ўздзеянне аказвае на чалавечыя сэрцы і душы тая ці іншая ідэалогія. Гэта бясспрэчна. І доказаў тут не трэба прыводзіць ніякіх.

Але мне адразу хочацца зрабіць адну агаворку.

Як раўнапраўны грамадзянін сваёй Рэспублікі Беларусь я жыву і працую па яе Канстытуцыі, падтрымліваю ўсё, што запісана ў ёй, у прыватнасці той пункт, дзе гаворыцца, што ў нас ёсць дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская. Не будзем тут гаварыць, хто якой мове аддае больш увагі. Яны ж для нас абедзве дзяржаўныя, блізкія, як і людзі, якія насяляюць нашу рэспубліку. Я асабіста, напрыклад, больш дваццаці гадоў праслужыў у радах былой Савецкай Арміі, доўгі час працаваў у армейскіх і акруговых газетах, пісаў і друкаваў нарысы, артыкулы на рускай мове. У час вайны кіраваў цэлай ротай — адным з перадавых баявых падраздзяленняў. Але — калі я пачынаў гаварыць — усе з першых слоў заўважалі што я — беларус. І я мог, як і сёння, гэтым толькі ганарыцца. Не дай божа ўпадобіцца мне тым заядлым нацыяналістам, якія ў некаторых краінах пазбаўляюць нацыянальныя меншасці права карыстацца сваёй мовай.

Але прабачце за такое адступленне. Гаворку сваю зноў вяртаю да пытання аб мове, аб яе ролі ў ідэалогіі. Не буду гаварыць пра нашы газеты, часопісы, іншыя перыядычныя выданні, якія ў нас выходзяць на беларускай мове і карыстаюцца належным попытам сярод чытачоў. Я сам пераконваюся ў гэтым кожны дзень, калі падыходжу да газетнага кіёска, што працуе ў нас на рагу вуліц Ульянаўскай і Свярдлова, і бачу, як людзі купляюць "Звязду", "Народную газету", часопісы "Полымя", "Маладосць" і іншыя перыядычныя выданні, якія выходзяць на беларускай мове. Нельга сказаць, што ў нас людзі не чытаюць кніг і перыёдыку на сваёй роднай мове. А калі мала чытаюць — дык у гэтым і наша віна — тых, хто піша, бо ці заўжды так і тое пішам, калегі?..

Аднак, чым можна вытлумачыць такую з'яву, што я, напрыклад, з свайго роднага Хоцімска, у дзень гадавіны, калі ён першым быў вызвалены на беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, з гарадскога пасёлка, дзе я калісьці надрукаваў у райгазеце "Калгасная звязда" свой першы верш, дзе неаднойчы сустракаўся са сваім вялікім земляком і паэтам Аркадзем Куляшовым, чуў перадачу толькі на рускай мове. А колькі там жыве яшчэ былых вучняў нашай першай настаўніцы Кацярыны Фамінічны Ратабыльскай, маці вялікага паэта, якая ўсяляла ў душы і сэрцы нашы на ўсё жыццё шчырае, ласкавае матчына слова!

Мне чамусьці (ды я сам разумею чаму) прыгадаўся верш нашага незабыўнага цудоўнага паэта Пімена Емяльянавіча Панчанкі "Развітанне". Не трэба пераказваць змест гэтага твора. Паэт з незвычайным хваляваннем і перажываннем гаварыў аб тым, што само жыццё быццам прымушае развітвацца з родным словам, якому ён на працягу ўсяго свайго жыцця аддаваў сваё сэрца.

Дык няўжо ж і сёння нас вядзе шлях да такога развітання? О не! Такога не можа быць і трэба спадзявацца, не будзе, як не можа быць таго, каб у Саюзе з братняй Расіяй і іншымі народамі былога "непарушнага саюза" страціла Рэспубліка Беларусь свой суверэнітэт, сваю нацыянальную незалежнасць. Мне здаецца, са мной сівым ветэранам, былым воінам-абаронцам Радзімы, згодзяцца ўсе, хто пачытае гэты ліст у рэдакцыю.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**




***У гэтыя дні ў Мінску супрацоўнікі літаратурнага музея Максіма Багдановіча і яго філіяла "Беларуская хатка", кожную экскурсію распачынаюць з таго, што расказваюць наведвальнікам пра падрыхтоўку мерапрыемстваў да 90-годдзя з дня выхаду ў свет адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў Максіма Багдановіча "Вянок", які, як піша даследчык А. Лойка, "па матывах і тэматыцы — пярэсты і разнапланавы, а па мнагатэмнасці — незвычайна цэльны, як асоба паэта, для якой характэрна адзінае светабачанне, светаадчуванне, аб чым бы ў вершах ні ішла гаворка".***

# З ДРУКАРНІ МАРЦІНА КУХТЫ...

У кнізе, якая была выдадзена напрыканцы 1913 года ў друкарні Марціна Кухты ў Вільні, (у кнігарнях з'явілася ў пачатку 1914 года), чырвонай ніткаю праходзіць і адчуваецца любоў да Беларусі, яе народа — нябачанай, незнаёмай бацькаўшчыны. Жывучы далёка ад радзімы, у зусім іншым моўным асяроддзі, не бачачы палёў, лясоў, не чуючы жывой роднай гаворкі, паэт усё ж пісаў пра родны кут. Менавіта ён быў яму натхненнем і радасцю. Менавіта да 1911 года, калі Максім упершыню ў сталым жыцці ступіў на родную зямлю, завітаў у Вільню, дзе пазнаёміўся з Вацлавам Ластоўскім і выдаўцамі газеты "Наша Ніва" братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, пажыўшы больш трох месяцаў у невялікім маёнтку Ракуцёўшчына, паблізу Маладзечна, падыхаўшы паветрам роднай Беларусі, яго адзіным духоўным багаццем былі кнігі пра Беларусь, яе песні і казкі, гутаркі з бацькам, родзічамі, беларусамі па паходжанні, з якімі быў знаёмы.

Першае ж факсімільнае выданне (1981 года), дарэчы, вельмі ўдалае на погляд літаратараў і навукоўцаў, цалкам паўтарае арыгінал, нясе тую абаяльнасць і тую энергію часу, якая акружала і натхняла паэта на прыгожыя, велічныя словы пра Беларусь.

Прыемна, што "Вянок", разам са змешчанымі творамі, якія не былі шырока распаўсюджаны, увайшоў і ў трохтомнае выданне Поўнага збору твораў Максіма Багдановіча (выдавецтва "Мастацкая літаратура"). Гэта значыць, што прыхільнікам таленту паэта ёсць магчымасць папоўніць свае хатнія бібліятэчкі новымі кнігамі, якія распавядаюць не толькі пра Багдановіча-паэта, але і пра Багдановіча-празаіка, публіцыста, крытыка і літаратуразнаўцу.

— У хуткім часе, дакладней, восьмага снежня гэтага года, — расказвае загадчыца філіяла літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка" Таццяна Шаляговіч, — плануецца навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная ўшанаванню зборніка. Вядома, што ён выйшаў накладам у 2000 экземпляраў. На Беларусі іх налічваецца каля 30. У асноўным, кнігі знаходзяцца ў бібліятэках і фондах музеяў. Хацелася б даведацца пра тое, што калі яшчэ ў кагo-небудзь, можа у прыватных архівах, ці мястэчковых бібліятэках захаваліся арыгінальныя зборнікі Багдановіча, то мы з удзячнасцю набылі б іх.

Вядома, што Максім Багдановіч марыў выдаць яшчэ не адзін зборнік. Ён упарта працаваў над кожным новым творам, нават папраўляў выдадзены ў свет "Вянок" — выкрасліўшы адтуль пятнаццаць вершаў. На жаль заўчасная смерць, пра якую здагадваўся паэт, не дазволіла яму ажыццявіць свае мары, якія засталіся нязддзейсненай задумай. Тым не менш у паэзіі Максіма Багдановіча адчуваецца ўрачыстасць, аптымізм і жыццесцвярджальнасць, матывамі радасці жыцця і каханя прасякнуты шматлікія вершы і раманы.

Віктар ПАТАПЕНКА

# «Я НЕ САМОТНЫ, Я КНІГУ МАЮ...»

***8 снежня 2003 года ў Мінску ў Літаратурным музеі М. Багдановіча адбудзецца Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Я не самотны, я кнігу маю...", прысвечаная 90-годдзю адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў М. Багдановіча "Вянок".***

Асноўныя накірункі канферэнцыі:
*— асоба М. Багдановіча ў гісторыі нацыянальнай літаратуры;*
*— зборнік "Вянок" — сінтэз нацыянальных і класічных агульнаеўрапейскіх традыцый;*
*— фальклорна-міфалагічны каларыт паэзіі М. Багдановіча;*
*— тэма Адраджэння ў творчасці паэта;*
*— лірычная паэзія М. Багдановіча;*
*— М. Багдановіч — празаік, публіцыст, крытык;*
*— М. Багдановіч і беларуская нацыянальная школа перакладу;*
*— творчасць М. Багдановіча ў сусветным кантэксце;*
*— багдановічазнаўства на сучасным этапе.*

**Просім паведаміць аб сваім удзеле і тэме даклада да 8 лістапада 2003 года. У заяўцы ўказаць: прозвішча, імя, імя па бацьку (поўнасцю); месца працы; пасаду, вучоную ступень; назву даклада (паведамлення); адрас, кантактныя тэлефоны.**

**Па заканчэнні канферэнцыі плануецца выданне зборніка дакладаў.**

**Заяўкі дасылайце на адрас: 220029, Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. М Багдановіча, 7а.**

**Кантактныя тэлефоны: (8-017) 234-07-61, 234-22-95.**

•

**Кожны год нашага жыцця па-свойму адметны і непаўторны, багаты на святы і юбілейныя даты. 2003 год з'яўляецца знакавым для супрацоўнікаў Літаратурнага музея М. Багдановіча, ды і для кожнага беларуса. У далёкім 1913 годзе ў Вільні ў друкарні Марціна Кухты ўбачыў свет адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў "Вянок" Маскіма Багдановіча. Сёлета спаўняецца 90 гадоў з той знамянальнай падзеі.**

**У Літаратурным музеі М. Багдановіча на сённяшні момант захоўваюцца чатыры экземпляры "Вянка", кожны з іх унікальны. Тры зборнікі вершаў маюць аўтографы Максіма Багдановіча і былі падараваны паэтам сваякам. Чацвёрты "Вянок" належаў Уладзіміру Дубоўку, быў падараваны ім літаратуразнаўцу Д. Бугаёву, які і перадаў кнігу ў музей М. Багдановіча. У наступных артыкулах мы больш падрабязна раскажам пра зборнікі, што захоўваюцца ў нашым музеі і іншых установах.**

**Вядома, што было надрукавана 2000 экземпляраў кнігі, таму навуковых супрацоўнікаў музея М. Багдановіча цікавіць пытанне, колькі зборнікаў захавалася да нашага часу.**

**Мы звяртаемся да ўладальнікаў гэтага рарытэтнага выдання – адгукніцеся, раскажыце гісторыю з'яўлення гэтай кнігі ў вас, звязаныя з ёю легенды. Ці не задумваліся вы над пытаннем перадачы "Вянка" ў Літаратурны музей М. Багдановіча дзеля надзейнага захавання для будучых пакаленняў?**

**Мы будзем вельмі ўдзячныя за любую інфармацыю па гэтым пытанні. Але, калі ласка, будзьце ўважлівыя, у 1981 годзе зборнік "Вянок" быў факсімільна перавыдадзены. Супрацоўнікаў музея цікавяць менавіта кнігі 1913 года выдання. З усімі пошукамі і знаходкамі мы абавязкова пазнаёмім вас, паважаныя чытачы.**

**Н. ГАРЭЛІК**
**галоўны захавальнік фондаў**

**І. МЫШКАВЕЦ**
**вучоны сакратар**

**ЛІМ-ЧАСАПІС**

# У СУСВЕТНЫМ КАНТЭКСЦЕ

***8-9 кастрычніка г.г. на філалагічным факультэце БДУ прайшла VI Міжнародная навуковая канферэнцыя "Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай".***

Праграма пленарнага пасяджэння, якое вёў старшыня аргкамітэта, загадчык кафедры славянскіх літаратур, доктар філалагічных навук, прафесар Іван Чарота, уключала даклады прафесараў Валянціны Нарыўскай (Украіна), Арнольда Макміліна (Вялікабрытанія) і Вячаслава Рагойшы (Беларусь).

Затым на працягу двух дзён працавалі секцыі: "Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх" (сустаршыні -- прафесар Л. Сінькова і дацэнт М.В. Хаўстовіч), "Руская літаратура ў кантэксце сусветнай" (сустаршыні – прафесар С. Ганчарова-Грабоўская і прафесар М. Мішчанчук), "Славянскія літаратуры і культуры на парозе XXI стагоддзя" (сустаршыні – прафесар І.А. Чарота і дацэнт В. Халіпаў), "Міжлітаратурныя кантакты: гісторыя і сучаснасць" (сустаршыні – прафесар В. Рагойша і прафесар І. Шаблоўская), "Славянскае літаратуразнаўства і культуралогія" (сустаршыні – прафесар Т. Шамякіна і прафесар І. Скарапанава).

Пераважная большасць дакладаў засноўвалася на беларускім матэрыяле і прысвячалася асэнсаванню айчыннай літаратуры ў сусветным кантэксце. Натуральна, што асноўная ўвага надавалася ўзаемадзеянням унутры славянскай супольнасці, якая цяпер перажывае не лепшыя часы. Аднак ужо сам гэты навуковы форум засведчыў, што як прыгожае пісьменства беларусаў і ўсіх славян, роўна так і гэтага профілю даследаванні маюць значныя перспектывы.

Ёсць усе падставы сцвярджаць, што статус канферэнцыі як міжнароднай пацвердзіўся і складам удзельнікаў, і зместам прадстаўленых на абмеркаванне навуковых ідэй.

А наступны, сёмы, раз грунтоўнае абмеркаванне ролі і месца славянскіх літаратур у сусветным кантэксце плануецца на 2005 год.

У.І.

# СУСТРЭЧА Ў ЛІНГВІСТЫЧНЫМ

***Вядучы рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура", паэт Уладзімір Мазго — часты і жаданы госць у школах і вышэйшых навучальных установах беларускай сталіцы.***

На гэты раз па запрашэнні кафедры беларускай мовы і літаратуры пісьменнік сустрэўся са студэнтамі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. Загадчык кафедры, вядомы літаратуразнаўца Пятро Васючэнка і выкладчык універсітэта, кандыдат філалагічных навук Алена Таболіч, прадстаўляючы госця, далі высокую ацэнку яго творчасці. Студэнты прачыталі вершы паэта, перакладзеныя на англійскую мову.

Вялікую ўвагу прысутных выклікалі вершы, песні, гумарыстычныя творы ў выкананні самога аўтара. Уладзімір Мазго расказаў аб новых кнігах выдавецтва, адказаў на шматлікія пытанні моладзі. А тым студэнтам, якія займаюцца літаратурнай творчасцю, паэт параіў наведаць "Літквартал" пры рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва".

# ПРЭМ'ЕРА Ў БРЭСЦЕ

У Брэсцкім абласным драматычным тэатры адбылася прэм`ера спектакля "Дзядзька Ваня" А. Чэхава. Яго паставіў вядомы літоўскі акцёр і рэжысёр, кіраўнік віленскага Маладзёжнага тэатра Альгірдас Лаценас, які прапанаваў сваю, сучасную і арыгінальную трактоўку рускай класікі. Галоўную ролю ён даверыў пяцідзесяцігадоваму акцёру тэатра Міхаілу Мятліцкаму.

Ю.П.




# НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

10 кастрычніка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь (вул. Леніна, 20) адкрылася выстаўка твораў народнага мастака Беларусі Гаўрылы ВАШЧАНКІ.

На выстаўцы экспануюцца каля 100 твораў жывапісу і графікі (акварэль), якія створаны вядомым майстрам беларускага выяўленчага мастацтва на працягу апошняга дзесяцігоддзя.

***У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі 9 кастрычніка ўрачыста адкрылася тэматычная кніжная выстава "Лепшыя кнігі Беларусі—2003" па выніках 43-га Рэспубліканскага конкурсу "Мастацтва кнігі—2003". Яна працягне сваю работу да 30 кастрычніка. Мэта выставы — паказаць шырокаму колу чытачоў лепшыя выданні Беларусі, якія ўбачылі свет у мінулым годзе. Прадстаўлены больш як 200 выданняў дзяржаўных і недзяржаўных беларускіх выдавецтваў, якія прымалі ўдзел у конкурсе.***

Да адкрыцця выставы было прымеркавана яшчэ адно свята — прэзентацыя кніг-лаўрэатаў 43-га Рэспубліканскага конкурсу "Мастацтва кнігі—2003". Былі прадэманстраваны кнігі — пераможцы конкурсу, якія атрымалі дыпломы І ступені "Лепшае выданне года". Гэта выпушчаныя выдавецтвамі: "Кавалер паблішэрс" — **"Гамлет"**, "Харвест" — **"Всемирная история"** ў 4 т., "Арт-дызайн" — **"Арт-дызайн студыя — каталог"** (аўтары У. Цэслер і С. Войчанка). Адначасова праходзіла таксама постэр-выстаўка рэкламна-інфармацыйных матэрыялаў выдавецтваў — удзельнікаў штогадовага конкурсу. Прэзентацыю распачаў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Р. Ма-







# МАСТАЦТВА КНІГІ



тульскі. Ён, у прыватнасці, сказаў: "Правядзенне конкурсу ўжо сталася добрай традыцыяй. Вялікі дзякуй Міністэрству інфармацыі за дадзеную нам магчымасць атрымаць доступ да ўсіх кніг. Сёлета ў конкурсе была рэкордная колькасць удзельнікаў. Наша бібліятэка ўжо закупіла шэраг выданняў, наконт якіх гаварылася, што іх не хапае. Цяпер яны ў нас ёсць, у бібліятэцы ёсць што пачытаць". Начальнік Упраўлення па кнігавыдавецкай рабоце Міністэрства інфармацыі РБ М. Станкевіч адзначыў: "Летась выйшла каля 8 тысяч найменняў кніг. На конкурс было прадстаўлена 259 найменняў, з іх 47 назваў кніг атрымалі дыпломы, а тры кнігі былі ўганараваны як лепшыя кніжкі года. Конкурс паказвае, што наша беларуская кніжка няўхільна паляпшаецца. Сёлетні кніжны кірмаш у Германіі, у Франкфурце, паказвае, што нашай кнігай цікавяцца і ў далёкім замежжы.

Прэзідэнт Беларускага саюза дызайнераў Д. Сурскі, які ўзначальвае выдавецтва "Арт-дызайн" і ўваходзіць у склад журы конкурсу, заўважыў: "Выдадзеная намі кніжка ў нашай краіне з'яўляецца рарытэтам". А. Гнядая, намеснік дырэктара выдавецтва "Кавалер паблішэрс", сказала: "Я хацела б падзякаваць у першую чаргу мастаку П. Татарнікаву, лаўрэату і прызёру некалькіх міжнародных конкурсаў, які ілюстраваў нашу кнігу-дыпламантку". Па заканчэнні прэзентацыі прайшла экскурсія наведвальнікаў па выстаўцы.

С. ЯВАР

*Фота К. ДРОБАВА*











**9 кастрычніка "Літаратурны квартал" абмяркоўваў вершы Рагнеда Малахоўскага, творчасць якога выклікае цікавасць ва ўсіх сяброў суполкі. Сведчаннем таму — дыскусія, што зацягнулася даўжэй звычайнага. Рагнеду давялося выслухаць шмат заўваг, але ўсе выступоўцы сышліся на тым, што аўтар — таленавіты, хібы яго творчасці — гэта "хваробы росту".**

**У дыскусіі бралі ўдзел Ігар Клепікаў, Андрэй Ключнікаў, Таццяна Барысюк, Аксана Спрынчан, Зміцер Арцюх, Наталля Капа, Віктар Іваноў, Наталля Кучмель, Сяргей Здаранкоў, Мікола Кандратаў, Алесь Каляда, Віка Трэнас, Янка Лайкоў, Наталля Бурдзейка, Юлія Новік, Валянціна Гарністава, Марыя Шамякіна, Яўген Рамяніца, Зміцер Кармазін а таксама выдавец часопіса "Куфэрак Віленшчыны" Міхась Казлоўскі.**

**Наступны раз сябры суполкі маладых творцаў будуць разважаць над паэзіяй Ігара Клепікава.**

**Пасяджэнні "Літквартала" адбываюцца кожны чацвер у 18 гадзін у памяшканні рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва".**

**Тэлефон для даведак: 284-79-65.**

# ДА 110-ГОДДЗЯ ПАЎЛІНЫ МЯДЗЁЛКІ

Споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Паўліны Мядзёлкі, грамадскай дзеячкі, педагога, заслужанай дзеячкі культуры БССР. З нагоды юбілею напрыканцы верасня ў Доме Купалы адбылася імпрэза.

Распачаў мерапрыемства дырэктар музея Сяргей Вечар, які прадставіў удзельнікаў і гасцей імпрэзы, акрэсліў значнасць юбілею Паўліны Мядзёлкі для музея Янкі Купалы.

У Дзяржаўным музеі-архіве г. Мінска знаходзяцца надзвычай цікавыя матэрыялы, якія распавядаюць пра малавядомыя моманты жыцця і дзейнасці Паўліны Мядзёлкі, пра гэта расказала дырэктар музея-архіва Ганна Запартыка. Пра асабістыя стасункі з Паўлінай Мядзёлкай распавёў паэт Сяргей Панізнік. Цёплымі ўспамінамі падзяліліся сваякі Паўліны Мядзёлкі — Лідзія Ламнёва, Аліса і Андрэй Плісанавы. Андрэй Міхайлавіч выканаў некалькі сваіх песень з альбома "Блюз у канцы тунеля".



Вядучая мерапрыемства Яўгенія Барсукова распавяла пра складанае, поўнае надзей, перажыванняў жыццё Паўліны Мядзёлкі, пра адносіны паміж Паўлінкай і геніем нашай літаратуры Янкам Купалам. Паводле ўспамінаў П. Мядзёлкі можна меркаваць, што паміж імі было каханне. Для Купалы, магчыма, пакутнае, таму што Паўліна Вікенцьеўна аддала перавагу іншаму. Ад гэтага кахання нарадзіліся цудоўныя вершы, поўныя сапраўднага пачуцця. Вершы "Быў гэта толькі сон...", "Тваей даўгажданнай", "Сыду...", "Вечар", "Увесь да дна...", "На вуліцы", "Таварыш мой", "Нашто?", "А яна..." , "Пахаванне", "Ночцы" складаюць своеасаблівы цыкл, прысвечаны Паўліне Мядзёлцы. Пранікнёныя светлыя вершы прачытала народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.

Аляксандра Гаеўская, дачка Рамуальда Гаеўскага, які з 1935 г. па 1937 г. быў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага тэатра, успамінала пра пастаноўкі купалаўскай п'есы "Паўлінка" ў розныя часы на сцэне як прафесійных тэатраў, так і самадзейных калектываў.

Артыстка Купалаўскага тэатра Галіна Бальчэўская асабіста ведала Мядзёлку. Яна расказала пра цёплыя, прыязныя адносіны паміж імі.

Нельга ўявіць сабе існаванне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы без "Паўлінкі". Пачынаючы з 1944 г. і да сённяшняга дня гэты спектакль не сыходзіць з рэпертуарнай афішы тэатра. Купалаўская "Паўлінка" — гэта неад'емная часцінка нацыянальнай культурнай скарбніцы.

З 1965 года ролю Паўлінкі выконвала Ала Доўгая, укладаючы ў ролю ўсю сваю душу і майстэрства. Артыстка падаравала музею сцэнічны касцюм, у якім на працягу 17 гадоў іграла ролю Паўлінкі.

У Купалаўскім тэатры змянілася ўжо многа пакаленняў Паўлінак. Зараз гэтую ролю выконвае маладая, таленавітая артыстка Юлія Шпілеўская. Разам з ёй у пары выступае ў ролі Адольфа Быкоўскага надзвычай цікавы артыст Алег Гарбуз. Кожны іх спектакль — падзея, сапраўдны падарунак гледачам. Прысутныя імпрэзы ўбачылі ўрывак з неўміручай Купалавай п'есы ў іх выкананні.

Студэнтка БДПУ імя Танка Юлія Барай, якая займаецца ў фальклорным гуртку Маргарыты Яфімавай, створаным пры БДУ, выканала ўрывак з п'есы "Паўлінка".

Да мерапрыемства была прымеркавана выстаўка "Паўліна, Паўлінка, Жыравінка...", у якой прадстаўлены экспанаты з фондаў музея Янкі Купалы і матэрыялы з асабістага архіва Сяргея Панізніка.

Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,
старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы



# ЧЫЖ, ЯКІ ЛЯТАЎ У ПАРЫЖ

***Знаёмячыся з кнігамі для дзяцей, што пабачылі сёлета свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура", з прыемнасцю зазначаеш, што яно своечасова дае зялёную дарогу ўсяму лепшаму, што пішацца для маленькіх чытачоў. Не стала выключэннемі кніга Уладзіміра Марука "Чыж вярнуўся з-за мяжы", якой сам аўтар даў такое жанравае вызначэнне: "вершаванае падарожжа". Я б усё ж у дачыненні да гэтага сказаў бы крыху інакш. "Чыж вярнуўся з-за мяжы", несумненна, падпадае пад вызначэнне аповесць у вершах. А адрасаваная яна ў першую чаргу дзецям малодшага школьнага ўзросту, хоць, безумоўна, з цікавасцю пазнаёмяцца з ёй і дашкольнікі, не кажучы ўжо аб тым, што і дарослым не лішне перагарнуць старонкі гэтага унікальнага твора, адчуўшы радасць ад судакранання з забытым ужо імі светам маленства, і пашкадаваўшы аб тым, што ў той час, калі яны самі былі маленькімі, нічога падобнага не пісалася і не выдавалася.***

Сапраўды, калі тое было, каб звычайны Чыж, які жыве ў нашым слаўным горадзе Нясвіжы, дзякуючы аўтарскай задуме і надзіва багатай творчай фантазіі, асмеліўся абляцець ледзь не ўвесь зямны шар, зрабіўшы па сутнасці кругасветнае падарожжа, напоўненае дзіўнымі, нечаканымі прыгодамі, але перад усім і пазнаннем для яго (а, значыць, і для малечы) шмат чаго невядомага, а па гэтай прычыне, дый з-за сваёй адметнасці, арыгінальнага.

Менавіта на падобнае герой У. Марука і здатны, бо ён з тых вандроўнікаў, якія, калі штосьці задумалі, ні перад чым не спыняюцца, а, спазнаючы нешта значнае самі, хочуць, каб і іншыя далучыліся да гэтай непаўторнасці, убіраючы яе ў сябе ва ўсёй напоўненасці.

Безумоўна, такая значнасць пісьменніцкай задумы патрабавала ад аўтара дасканалай сюжэтнай пабудовы гэтага "вершаванага падарожжа" і У. Марук, трэба адразу адзначыць, паспяхова справіўся з такой задачай, паяднаўшы ў адно цэлае самыя розныя эпізоды.

Я невыпадкова сказаў, што "Чыж вярнуўся з-за мяжы" — свайго роду аповесць у вершах. У кнізе ёсць шэраг элементаў, што дазваляюць меркаваць на карысць падобнага сцвярджэння, і пераконваюць, як у творы паступова набірае размах дзеянне, разгортваючыся ў прасторы і часе, дасягаючы сваёй кульмінацыі і, адпаведна, развязкі. А як бы скампаноўвае ўсе гэтыя элементы своеасаблівы пралог, што называецца "З усяго свету — у кніжку гэту":

*Падарожнічаць па свеце*
*Любяць змалку нашы дзеці.*
*Хочуць ведаць яны,*
*Дзе вячэраюць сланы,*
*Дзе начуюць кракадзілы,*
*Марабу,*
*Дзікі,*
*Гарылы,*
*Дзе жывуць маржы*
*І барсы...*
*Прачытайце кніжку гэту*
*Пра Зямлю—*
*Сваю планету.*

Пасля гэтага ўступу, канечне ж, пачынаецца знаёмства з галоўным героем кнігі, які, неяк гартаючы газету, прачытаў, што "няма на белым свеце месца лепей, чым Парыж", ну, а паколькі Чыж быў "хлопец зухаваты, спрытны, удалы не ляны", ён і загарэўся жаданнем пабачыць Парыж, бо "заўсёды меўся абляцець наш белы свет". А каб свет паглядзець, ці не лепей пачаць гэтае са знаёмства з Парыжа?! Калі ж нешта задумана, дык абавязкова здзейсніцца. Тым больш, што Чыж ніколі слоў на вецер не кідаў, таму адразу і сабраўся ў няблізкую дарогу.

З гэтага моманту ў кнізе і пачынае разгортвацца клубок дзівосных прыгод, да якіх Чыж і далучаецца ў розных кутках планеты, бо падарожнічаць яму настолькі спадабалася, што Парыжам не абмежаваўся. Еўропай — таксама. І ў Афрыцы ён пабываў. І ў Амерыку завітаў.

Хацеў і ў Антарктыду трапіць, але абмежаваўся толькі аблётам яе, бо, як прызнаўся, "холад мне і так абрыдзеў". Дый ведаў Чыж, што, апроч снегу і пінгвінаў, наўрад ці што ўбачыш. Аднак Антарктыда яго ўсё ж цікавіла. Нават верш "Пінгвін і карціна" пра яе склаў:

*У святочны дзень*
*Пінгвіну*
*Падарыў сусед карціну.*
*Разабраў пінгвіна смех:*
*Бо навокал толькі снег,*
*І няма куды*
*Пінгвіну*
*Вешаць гэтую карціну.*

Паўсюдна, дзе яму давялося пабываць, Чыж для сябе штосьці адкрыў, нешта знайшоў, шмат у чым пашырыў уласны кругагляд, а часам, надарылася, што і ў камічныя сітуацыі трапляў. А пачалося ўсё з Парыжа, дзе пазнаёміўся ён з мясцовым гракам, а той яму згадаў пра Сену. Здзівіўся Чыж, пра якое яшчэ сена можа ісці гаворка?!:

*"Сена?*
*Што?*
*Няўжо на даху?.." —*
*Запытаўся наш зямляк.*
*Грак смяяўся шчыра й доўга*
*І дзівіўся з дружбака:*
*"Рэкі ёсць*
*Дняпро і Волга...*
*Сена —*
*Гэткая ж рака".*

Ды Чыж, як кажуць, не шыты лыкам. Ён не толькі выдатны падарожнік. І не толькі вершы ўмее пісаць, а да ўсяго, калі трэба, з любой сітуацыі годна выйдзе:

*"Ну й прыдумалі французы —*
*Наша сена ў іхняй лужы..." —*
*Перавёў на жарты Чыж...*

У няёмкую сітуацыю Чыж, аднак, трапіў не толькі гэтым разам. Нешта падобнае назіралася і тады, калі ён горад Атаву перабляытаў са звычайнай атавай, і калі падумаў, што Штраус — гэта птушка страус.

Відавочна, што падобныя памылкі героя кнігі сяму-таму і з чытачоў стануць добрым напамінкам, наколькі трэба старанна вучыцца, каб не ўсміхаліся з твайго няведання таго, што для чалавека дасведчанага ніколі не з'яўляецца сакрэтам. І гэта сведчыць на карысць таму, што У. Марук, пішучы дасціпна і займальна, адначасова паспяхова вырашае і педагагічную задачу.

Увогуле, Чыж, у пэўнай меры, звычайны хлапчук, які хоча шмат даведацца новага і разам з тым можа паводзіць сябе не адэкватна таму, што адпавядае строгім нормам паводзін. Невыпадкова пра яго ў кнізе гаворыцца, што ён — "хлопец зухаваты". А хіба можа такі "хлопец" не быць сучасным? Вядома ж, не! Таму і дазваляе аўтар яму размаўляць так, як размаўляюць часам сённяшнія дзеці. Праўда, мусіць, зрабіць невялікую агаворку. Гэта адбылося пасля таго, як яго герой прысутнічаў у Іспаніі на карыдзе:




*Чыж сказаў:*
*"Ну, я балдзею,*
*Страшна, блін,*
*Не маю слоў..."*
*(Прабачайце, наша тэле*
*Не такія словы меле,*
*Ну а Чыж,*
*Ён ля экрана*
*Шмат сядзеў —*
*І позна, й рана.)*

Не трэба баяцца ў творах для дзяцей падобных, як каму-небудзь са строгіх педагогаў можа падацца, вольнасцяў. Гэта — само жыццё, а ад жыцця нікуды не дзенешся. І асучасніванне галоўнага героя ідзе толькі на карысць. Хлопчыкі і дзяўчынкі адразу пераконваюцца, што ён (прабачце, вольнасць дапускаю і я), свой у дошку, а таму яго яшчэ лепш палюбяць, а адначасова яшчэ з большай цікавасцю знаёміцца з кнігай.

Яна ж — і як бы маленькая энцыклапедыя.

Адкрывае для сябе незнаёмы свет — адкрываюць яго і маленькія чытачы, а адбываецца гэта дзякуючы таму, што ў сюжэтную канву "вершаванага падарожжа" хораша ўплятаюцца асобныя вершы, якія знаёмяць з жывёльным ці раслінным светам розных куткоў Зямлі. А якая тут шырокая тэматыка, добра відаць ужо з назваў твораў: "Бегемот і мёд", "Удод і самалёт", "Скунс і кроп", "Мурашкаед і балет", "Ягуар і буквар", "Паўлін і мандарыны", "Кажан і качан" — пералік можна доўжыць.

Няцяжка заўважыць, што У. Марук, як правіла, ужо назвы твораў рыфмуе, што, безумоўна, яшчэ больш прыцягвае да іх увагу. Дый асобныя персанажы, як той жа Чыж, трапляюць у сітуацыі, з якімі неаднойчы даводзіцца сутыкацца і самім дзецям. І тут таксама не абыходзіцца без гумару. Лёгкага, дасціпнага, а ў асобных выпадках і як бы нападрос. Як у вершы "Слон і малпы":

*Дзвесце малпаў*
*Як адна*
*Закахаліся ў*
*Слана.*
*Гэты слон*
*Такі рахманы,*
*Раздае за так*
*Бананы,*
*Падвязе,*
*Як хто папросіць,*
*І на хобаце*
*Паносіць...*
*Адным словам —*
*Добры слон.*
*Аднаго не ведаў*
*Ён,*
*Што пачнецца вайна:*
*Дзвесце малпаў*
*Як адна*
*Будуць біцца*
*З-за слана.*

Аднак, дзе б ні знаходзіўся Чыж, куды б ні трапляў ён, абавязкова памятаў аб сваім родным краі. І не толькі памятаў, але і любіў часта напяваць сваю няхітрую песеньку, у якой запэўніваў, што абавязкова вернецца назад: "Мой любімы // Родны край, // Ненадоўга я // Чакай!..." А вярнуўшыся дамоў, упэўніўся, што лепшай зямлі, чым Беларусь, на свеце не знайсці. Аб гэтым часта любіў расказваць за бяседным сталом у коле сяброў, нязменна паўтараючы ім:

*"Ёсць на свеце прыгажосць.*
*Але там ты —*
*Толькі госць.*
*Дома хто ты?*
*Гаспадар!*
*Дагледаеш свой абшар,*
*Беражэш яго*
*Як трэба:*
*Кусцік свой,*
*Кавалак неба...*
*Шмат лятаў я,*
*Менш прайшоў —*
*Лепш, чым дома,*
*Не знайшоў!"*

Адна з галоўных вартасцяў кнігі і заключаецца ў тым, што У. Марук, знаёмячы дзяцей з рознымі краінамі і кантынентамі, расказваючы пра іх адметнасці і насельнікаў, прывівае хлопчыкам і дзяўчынкам і любоў да сваёй роднай зямлі, пераконваючы, што яе трэба заўсёды шанаваць. І робіцца гэта, як няцяжка заўважыць, без гучных запэўніванняў, без публіцыстычных заклікаў, без настойлівых пераканнанняў, а нязмушана, непрыкметна. Так, як і павінна быць. Ва ўсякім разе ў таленавітай кнізе таленавітага аўтара.

А кніга "Чыж вярнуўся з-за мяжы" такой і з'яўляецца. А яшчэ яна цудоўна афармлена мастаком Раманам Суставым, таму сумнення няма, што дзеці ў наш час дэфіцыту высокамастацкай літаратуры для іх атрымалі добры падарунак.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

**ДЫЯЛОГІ**

# ЧАРАЎНІК З НАШАГА ДЗЯЦІНСТВА

З Уладзімірам Мацвеенкам я сустрэлася ў восеньскі шэры дзень у сумным паўпустым пакоі. Настрой быў дрэнны, нічым не хацелася займацца. Але ў дзверы ўвайшоў невысокі сівы чалавек, сеў насупраць мяне. Размова пачалася: ён ўзгадаў казкі, загадкі, скорагаворкі. І я адразу перанеслася ў цёплы свет дзяцінства. І вось пакой ужо не здаецца такім шэрым, за вокнамі пасвятлела, а чалавек насупраць мяне нагадвае сапраўднага чараўніка.

**— Добры дзень, Уладзімір Іванавіч.**

— Дзень добры, — адказвае чараўнік і ўсміхаецца, бачачы з якой тугой я гляджу ў вакно на шэрае, хмурнае неба. Трэба, каб у кожнага чалавека было сонейка ўнутры, каб яно свяціла і яму, і акаляючым людзям, тады чалавек не будзе звяртаць увагу на надвор'е, і кожны дзень будзе сапраўды добрым і радасным.

**— Мяне вельмі зацікавіла ваша кніга "Сябрынка". Прачытаўшы яе, захацелася самой прыдумаць казку або рыфмаванку, каб потым падзяліцца ёю з сябрамі. Цікава, як да вас прыйшла ідэя стварыць такую кнігу, такі своеасаблівы падручнік для маленькіх паэтаў? — Я задала пытанне і ўсміхнулася, гледзячы на гэтага 75-гадовага чалавека, такога аптымістычнага і з такой маладой душой.**

— А ўсё пачалося з таго, што я, чытаючы дзіцячую літаратуру, календары, часопісы, натрапляў на тое, што чалавек піша, скажам, метаграму, але называе яе шарадай. А памылкі такія дапускае таму, што сам не ведае як назваць свой твор. Аўтар, магчыма, сам яшчэ малы, таму і піша няправільна. Адкуль жа ўзяць гэтыя веды? І я падумаў, што калі напішу і растлумачу, што да чаго, з чаго пачынаць загадку, як яе зарыфмаваць, то маленькаму чытачу будзе лягчэй, і ён з яшчэ большай ахвотай будзе прыдумляць свае дзіцячыя творы.

**— Загадкі, хоць і цікавыя, але здаюцца такімі маленькімі і простымі. Няўжо іх так складана напісаць?**

— Мяркуй сама. Існуюць не толькі проста загадкі, але і загадкі-рыфмаванкі, загадкі-задачкі, амонімы, шарады і гэта далёка не ўвесь спіс. Вось напрыклад:

### Загадка-жарт

*Адно вока,*
*Адно вуха,*
*Адзін рог,*
*Што гэта*
*За насарог?*

Гэта Карова выглядае з-за вугла.

А вось:

### Загадка-рыфмаванка

*Над палямі,*
*Над лугамі...*
*Памахае нам крыламі*
*Белы сімвал*
*Беларусі,*
*Як жа ён завецца?*

— Бусел. — адказваю я.

— Малайчына! Зараз бачыш — усе загадкі розныя і да кожнай трэба знайсці свой асаблівы падыход.

**— А ці ёсць якія-небудзь агульныя правілы для напісання ўсіх загадак?**

— Самае галоўнае, каб загадка мела толькі адну адгадку. Таму, калі ў дзіцячым садку маленькі жэўжык прыдумаў яшчэ адну адгадку да маёй загадкі, я адразу гэты твор зняў, бо загадка павінна быць аднназначнай.

**— Няўжо ўсе вашыя загадкі такія адназначныя? А як жа з каровай, якая выглядае з-за вугла? Гэта ж можа быць і каза?**

— Справа ў тым, што гэта адна з маіх любімых загадак, і таму я не змог яе зняць. Прызнаюся, яна не адназначная і мае нават не дзве, і не тры адгадкі. Але такая "любіміца" ў мяне толькі адна.

**— "Азбука ў загадках", "Сорак скорагаворак", "Сябрынка"... Гэта далёка не ўсе вашыя кнігі. Я разумею, усе яны розныя: адны для самых маленькіх, другія для старэйшых дзяцей, а трэція зацікавяць і школьнікаў. Але якая кніга для вас самая дарагая? Напісанне якой запомнілася больш за ўсё?**

— Напачатку выйшла кніжка "Загадкі зайкі-загадайкі". А потым у мяне ўзнікла жаданне стварыць новы твор, але не хацелася проста пісаць загадкі. Таму я вырашыў падняць планку вышэй і пачаў пісаць "Азбуку ў загадках", робячы так, каб кожная загадка пачыналася і заканчвалася пэўнай літарай алфавіта. Калі ішлі літары А, Б, В, Г усё было добра, але сустрэліся і такія "непаслухмяныя", як Ў, Ы, Э, Ь... А трэба ж, каб загадка пачыналася і заканчвалася менавіта гэтай літарай. Праца спынілася. Але праз тыдзень-другі да мяне прыйшла такая думка: а што, калі мяккі знак не пісаць сімвалам, а напісаць словам МЯККІ ЗНАК. Напісаў, зарыфмаваў і вось што атрымалася:

*Мяккі знак*
*Сярод літар стаяў,*
*Мяккі знак*
*Перад сном пазяхаў...*
*Ды раптам — бом! —*
*Зваліўся гляк*
*І трапіў ён*
*На мяккі знак.*
*Пабіўся —*
*Не разбіўся*
*І ўголас*
*Пахваліўся:*
*— Пашанцавала*
*Мне аднак,*
*Што я*
*Упаў на м....*

Сышло на мяне такое азарэнне і потым стала лягчэй пісаць і на літары Ы, Ў... Напэўна, гэтая кніжачка і ёсць мая самая любімая, таму што ніколі раней я не сустракаў, каб на літару мяккі знак была загадка. І я лічу, што гэта мой маленькі ўнёсак у моўную скарбонačку дзіцячай літаратуры.

**— Ваша кніга выйшла дастаткова даўно, але чаму ж крытыкі прапусцілі яе? Чаму не адрэагавалі на такую незвычайную кнігу?**

— Няпросты лёс у маёй кніжачкі. На пачатку яна павінна была выходзіць у выдавецтве "Народная асвета", але выйшла ў "Вожыку". Можа, таму кніжка і прайшла незаўважанай крытыкамі. Але хочацца падзякаваць Алесю Марціновічу, які ўсё ж такі падтрымаў мяне і сказаў пра мой твор колькі добрых слоў.

**— Уладзімір Іванавіч, у нас ёсць нямала паэтаў, якія пішуць і для дарослых і для дзяцей. Але выключна для дзяцей, мне здаецца, пішаце толькі вы. Чаму вы абралі для сябе менавіта гэты накірунак?**




Я хаджу ў дзіцячыя садкі, школы, дзе чытаю дзецям свае творы. Якое задавальненне бачыць добрыя дзіцячыя ўсмешкі, бачыць у іх вялікіх вачах зацікаўленасць тваёй творчасцю. А якая ўзнагарода для мяне, калі я бачу ў дзіцяці імкненне да кніг і ведаў, жаданне самому рабіць нешта цікавае. Дзеці — чыстыя і пяшчотныя стварэнні, таму сваімі творамі мне хочацца захаваць у іх гэту дабрыню, хочацца паказаць ім жыццё, якое акружае іх, з лепшага боку.

**— Як вас цікава слухаць. Колькі ўсяго новага і незвычайнага могуць сказаць вашыя кнігі. А што будзе далей, ці ёсць у вас якія-небудзь новыя задумкі? Чым вы яшчэ парадуеце юных чытачоў?**

— Ёсць і нямала. Па-першае, у выдавецтве ляжыць мая новая кніга "Дабранач". Яна ўключае ў сябе вершы, калыханкі, скорагаворкі і лічылкі, падабраныя такім чынам, каб яны былі цікавыя не толькі дзецям, але і дарослым, якія чытаюць іх для сваіх дзетак.

Па-другое, у мяне ёсць план скласці азбуку, у якой на кожную літару прыводзілася б не толькі загадка, але і верш, і скорагаворка. Ну, а па-трэцяе, у мяне ёсць запаветнае жаданне: часцей сустракацца са сваімі чытачамі. Каб вучыць іх нечаму новаму, каб адчуваць, што мая праца патрэбна і прыносіць карысць.

**— Вялікі дзякуй, Уладзімір Іванавіч, за цікавую размову. Хочацца вам пажадаць, каб усе вашыя планы здзейсніліся і, канечне, каб ваша запаветнае жаданне збылося. Бо, хто ж навучыць маленькіх дзетак дабру, хто ўвядзе іх у свет творчасці, як беларускія пісьменнікі, адзін з якіх — вы?**

**Вольга ЛЕШЧАНКА,**
**вучаніца 11 класа тэхналагічнай гімназіі № 13**
**г. Мінск**

# «...А Ў НАС НА АРШАНШЧЫНЕ»

Галоўны герой рамана "Патоп" польскага пісьменніка Генрыха Сянкевіча аршанскі харунжы Андрэй Кміцы ў сваіх размовах часта згадвае фразу: "...а ў нас на Аршаншчыне". З віцебскай Оршай звязаны многія літаратурныя персанажы. У горадзе і ваколіцах адбывалася шмат падзей, якія і сёння, праз дзесяцігоддзі і стагоддзі, бударажаць людскую памяць, прымушаюць працаваць уяўленню. Таму, відаць, і невыпадковым сталася выданне эксперыментальнага навучальнага дапаможніка "Оршазнаўства".

Аўтар не заўсёды тыповага для беларускіх школ выдання — настаўнік геаграфіі СШ № 18 горада Орша Віктара Васільевіч Жукоўскі. Ён і патлумачвае, што за курс такі выкладае вось ужо трэці год, чаму прысвечаны яго індывідуальны праект, які атрымаў падтрымку і ў мясцовым аддзеле адукацыі, і ў калег-прадметнікаў:

— Рэгіянальныя гісторыя, геаграфія — свайго роду складальнікі той працы, што праводзіцца са школьнікамі ў цэлым па вывучэнню геаграфіі, гісторыі. Факты, якія сабраны з жыцця роднага краю, носяць эмацыянальную афарбоўку, садзейнічаюць глыбіні пранікнення ў вывучаемы матэрыял. Оршазнаўства дазваляе зрабіць багацейшымі, шырэйшымі і веды вучняў у галіне літаратуры.

Наколькі шырокае распаўсюджванне атрымала краязнаўства ў школьнай праграме па ўсёй Беларусі? З гэтым пытаннем мы пагрукаліся ў дзверы Рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнцаў і моладзі. Уладзімір Сергіеня, які працуе ў аддзеле краязнаўства, патлумачыў да празрыстасці ясна: справай гэтай, маўляў, займаецца ўся краіна...

— А ў якіх канкрэтна школах выкладаецца горадазнаўства, раёназнаўства?

— Ды ўсюды, — удакладніў Уладзімір Васільевіч. І тут жа паправіў, — Няма такога тэрміну, як горадазнаўства. Ёсць краязнаўства...

Не збіраючыся ўступаць у палеміку, заўважым, што і масквазнаўства, і оршазнаўства, і горадазнаўства — усё гэта было, ёсць, пэўна, і будзе. Яшчэ ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя ў Расіі выходзілі працы Грэўса, які на другое месца ў справе стварэння гістарычнай памяці пасля археалагічных вышукаў паставіў вывучэнне гарадоў і паселішчаў увогуле. Яшчэ ў 1920-я гады ў школах старажытнага сібірскага горада было ўведзена "Табольсказнаўства...". Спрачацца, праўда, — справа марная. І не здолеўшы канкрэтна высветліць у Рэспубліканскім цэнтры турызму і краязнаўства навучэнцаў і моладзі, дзе ўсё ж такі вывучаюць гісторыю свайго горада ці рэгіёна, па парадзе таго ж Уладзіміра Васільевіча высвятляем сітуацыю "на месцах". Дакладней — у аддзеле беларусазнаўства і краязнаўства Віцебскага абласнога цэнтра дзіцячага турызму і экскурсій. Так, аршанскі вопыт увядзення краязнаўства ў школьную праграму хаця і не атрымаў шырокага распаўсюджвання, усё ж далёка не адзінкавы. Спецкурс рэгіянальнай гісторыі, калі можна так выказацца, рэгіянальнай геаграфіі выкладаецца ў СШ № 2 горада Сянно. Аўтар праекта Васіль Бандарэвіч — ён жа і аўтар кнігі "Экскурс да вытокаў Сянно". Пад адной вокладкай — гісторыя горада і раёна. У арсенале школьнага настаўніка — мноства табліц, малюнкаў і іншага дапаможнага краязнаўчага матэрыялу. За кошт гадзін так званага школьнага кампанента выкладаюць краязнаўства і ў СШ № 1 горада Лёзна. Традыцыі вывучэння гісторыі краю ў рамках праграмы склаліся і ў школах Браслава і Браслаўскага раёна. Магчыма, ёсць і іншыя прыклады. Важна, каб іх і "наверсе" разгледзелі, каб змаглі за агульным прыватнае бачыць.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ



Дар'я ЛОСЕВА



●

*Не прысвячай сябе нікому,*
*Ніхто не цэніць.*
*Як многа слёз,*
*Як шмат утомы,*
*Святла і ценяў!*

*Але — як жыць?*
*Ісці ў пустыню?*
*Бо горш з людзьмі,*
*чым без людзей...*
*З трывожных думак*
*сэрца стыне.*
*Мой судны дзень,*
*Мой горкі дзень....*

●

*Сняцца мне матчыны кросны,*
*Сніцца мне матчын чаўнок.*
*Мамачка!*
*Твае вёсны*
*Выткалі мой радок.*
*Мамачка!*
*Твае зімы*
*Вершаў сатkалі кілімы.*
*Мамачка!*
*Тваё лета —*
*Песня паэта.*

*Казачнаю там птушкай —*
*Твая дачушка!*
*Мамачка...*

●

*Мяне немагчыма расцерці,*
*Мяне немагчыма забіць.*
*Паўстану я нават са смерці*
*Жыць!*
*Мне воўк небяспечны*
*не страшны,*
*Мне хцівец-двурушнік відзён,*
*Сяброўчачка-лісанька мажная,*
*Што мне сапсавала шмат дзён.*
*Малюся.*
*І дзякую лёсу,*
*Што мне давялося зазнаць*
*І з гора сапраўдныя слёзы,*
*І радасць —*
*нябёсы дастаць!*

●

*А вершы не кормяць, на жаль...*
*Адкрылася сумная даль...*
*Навошта мне мова англійская?*
*Матчына —*
*над калыскаю.*
*Матчына —*
*над старонкаю*
*Песняй трывожна-звонкаю.*
*Навошта мне мова англійская,*
*Чужая, душы няблізкая?*
*Матчына —*
*над старонкаю*
*Рабінаю горкаю...*

●

*Бог з вамі, дзяўчаткі,*
*Бог з вамі!*
*Застацца хачу я сабой*
*і з сонечнымі барамі,*
*і з сонечнаю журбой.*

*Хачу заставацца заўсёды,*
*Як поле, як рэчка,*
*як луг.*
*Падалей ад тлуму,*
*ад моды,*
*Ад звады, што ходзіць наўкруг.*

*Не трэба дурнога багацця,*
*Дзе сэрца няма і душы.*
*Сабою хачу я застацца*
*І ў шуме людскім,*
*і ў цішы.*

●

*Я свет у думках абышла,*
*Цябе шукаючы,*
*мой Дружа.*
*Я ўратавалася ад зла,*
*Я з пекла вынесла ўсе ружы!*

*Каб толькі Ты,*
*каб Ты адзін*
*Мог на Зямлі са мной сустрэцца*
*І ў сцюжу разам абагрэцца,*
*І ўратавацца між ільдзін.*

*Мне сніцца позірк мудраца,*
*Там вочы —*
*поўныя бяздоння.*
*Дай, Божа, мне ў імя Жыцця*
*Знайсці таго,*
*хто ў марах сёння!*

●

*Добры дзень, мая поўня,*
*Самы цёплы мой дзень!*
*Як жураўка я сёння,*
*Як духмяны прамень.*

*Сёння сэрцайкам бачу,*
*Як ідзеш ты, куды...*
*І так светла я плачу,*
*І цвіту, як сады.*

●

*Я Табе не сказала так многа,*
*Што павінна калісь сказаць!*
*Запылілася рана дарога,*
*Пацямнела ад слёз сенажаць.*

*Я стаю пад адкрытым небам,*
*Замятае мяне туга.*
*Маё золата,*
*маё срэбра,*
*Вясёлковая ў небе дуга!*

*Што з Табою?*
*Шапні мне ў сэрца!*
*То маланкі мне шлеш,*
*то гром.*
*То вясёлкаю сум здаецца,*
*То — як птушка ўляцела ў дом!*

*І такая ціша над краем!*
*Што ў цішы мне Табе сказаць?*
*Я бясконца Цябе гукаю!*
*А нябёсы...*
*Нябёсы маўчаць...*

●

*Гучаць чыесьці вершы,*
*Па радыё гучаць.*
*Мае ж радкі найлепшыя*
*Маўчаць.*

*Не хочуць яны звону*
*Пра дом, ад слёз чужы.*
*О, да Твайго б ім дому,*
*О, да Твае б душы!*

*Нічога больш не трэба,*
*Бо Ты — зямля і неба!*

●

*Усё цішэй я і цішэй,*
*Нібы трава, нібыта дрэвы.*
*Так многа згублена надзей!*
*Так многа страчана даверу!*

*Між мітусні, дзе ўсе крычаць*
*Пра дабрабытак свой далярны,*
*Ёсць востраў сіні,*
*дзе адчай —*
*Князёўнай гарнай.*

*Там не заб'е мяне туга,*
*Рука чужая і пустая.*
*Над злом усім там ёсць Дуга*
*Вясёлкі, песняю што стане!*

●

*О, Ты! Не зведаў што мой жаль,*
*Не вызнаў майго гора,*
*Я ўся цяпер —*
*нябёсаў даль,*
*Я ўся цяпер —*
*як зоры.*

*Нікому болей не стаптаць*
*Душы таемнае святліцы.*
*Нікому болей не дастаць*
*Маёй сініцы!*

*А Ты... Не зведаў ты мой жаль,*
*Сцураўся майго гора, —*
*Хай не трывожыць мая даль,*
*Душа мая — як мора!*



Жывапіс Нэлі ШЧАСНАЙ

# ЮНАЕ ЛЕТА

## З ЦЫКЛА «ШЛЯХІ І ВЯРТАННІ»

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



### БІЛЬЯРД

Кажуць, більярд — гульня сапраўдных мужчын. Калі так, то я — сапраўдны мужчына, бо не толькі навучыўся гуляць у більярд з самых юных гадоў, але і пацярпеў ад яго, як сёння кажуць, не слаба.

А зацягнуў мяне і маіх аднакласнікаў у більярдную справу наш выкладчык вытворчай практыкі — худы, вечна дрэнна паголены, з палаючым позіркам, што гаварыла пра гарачую натуру. Казалі, што ён у вольны ад работы час прападаў ля більярдных сталоў у Доме афіцэраў і мог выйграць або прайграць шалёныя грошы.

Першы даклаў нам пра гэта Юрка Хадора, які, здаецца, ведаў пра ўсё і пра ўсіх. А паколькі практыку мы праходзілі на маленькім металафурнітурным заводзіку, дзе на другім паверсе быў клуб з більярдным сталом, дзе ўрэшце мы і займаліся, мы неадкладна рашылі праверыць інфармацыю.

Пасля занудлівага мармытання выкладчыка пра віды сталі, калі ён аб'явіў перапынак, Юрка Хадора ласкавым галаском папрасіў:

— Васіль Мікалаевіч, пакажыце, як у більярд іграюць.

Выкладчык спачатку зрабіў строгі выгляд, потым аблізаў сухія губы, і раптам сказаў:

— Пакажу. Толькі ціха. І каб — нікому!

Так пачалася наша більярдная ліхаманка. Цяпер ні пра якія сталы мы ў час практыкі больш не гаварылі. Дзяжурны станавіўся ля дзвярэй на атасе, а мы разам з выкладчыкам дзве гадзіны рэзаліся ў більярд.

Практыка была ў нас два разы на тыдзень і мы чакалі яе з нецярпеннем. Паявіліся ўжо свае лідэры і аўтсайдэры, мы са смакам абмяркоўвалі "тонкага сваяка" ці "двайны ў лузу". Більярд стаў нашай любімай гульнёй.

Аднойчы, а гэта ўжо было пад канец навучальнага года, прыйшлі мы, як звычайна, на наш любімы заводзік, а замест выкладчыка нас сустрэў мардаты загадчык клуба Антон і аб'явіў:

— Практыкі сёння не будзе. Выкладчык ваш захварэў, так што гуляйце пакуль.

Гуляць мы былі рады. Выйшлі на вуліцу. Хто пабег дахаты, хто пайшоў у школу ў спартзалу. Мне дамоў ісці не хацелася, і я пасунуўся за тымі, хто пайшоў у школу. Але ў спартзале ішоў урок фізкультуры, і нас там ніхто не чакаў.

— Мальцы, а давайце вернемся ў клуб, у більярд згуляем! — прапанаваў Юрка Хадора.

— Дык туды ж без выкладчыка не пусцяць! — запярэчыў ціхі Толік Ермачэнкаў.

— Пусцяць, — запярэчыў высокі змрочны Воўка Мішукоў па мянушцы Ман, — пайшлі!

Мана ўсе пабойваліся, ён стаяў на ўліку ў міліцыі, за ім вадзіліся цёмныя справы.

— Пайшлі, дык пайшлі, — сказаў разважлівы Віцька Гапановіч, якога мы ўсе звалі за чорны загар, магутны торс і гладка падстрыжаную галаву дзядзькам Томам.

Дзверы клуба былі зачынены.

— Нічога, — задуменна прамовіў Ман, — зараз адчынім!

— Можа, не трэба? — падаў голас я.

Але Ман ужо дастаў з кішэні нейкую жалязяку, пакруціў ёй у замку, і дзверы клуба адчыніліся.

Шары і кіі былі на месцы. Каб ніхто не заходзіў, дзверы мы прымкнулі ножкай крэсла. І пачалася гульня.

Разы са два нехта торгаўся ў дзверы, але мы сцішваліся на хвіліну і, дачакаўшыся, калі торгаць пераставалі, зноў працягвалі гульню.

Нас было шасцёра, і мы гулялі ў тры пары. Час ішоў непрыкметна.

І раптам у дзверы рэзка і ўладна пастукалі, і зычны голас закрычаў:

— Адкрывайце, міліцыя!

І не чакаючы адказу, пачалі рэзка торгаць дзверы. Нас ахапіла паніка. Пабеглі чамусьці да вокнаў, хоць клуб знаходзіўся на другім паверсе. Але ў вокнах нас ужо чакалі мажныя дзядзькі ў міліцэйскай форме.

"Браць" нас прыехаў цэлы нарад. А з імі і мардаты Антон з нейкімі двума дзядзькамі ў цывільным. Ніхто не заўважыў, як дзядзька Том з Хадорам залезлі ў вялікую трыбуну, абцягнутую чырвоным кумачом.

Трыбуна была проста перада мной і я бачыў дзядзьку Тома, які рабіў мне таямнічыя знакі і падміргваў.

Нас між тым "шманалі" па поўнай праграме: выварочвалі кішэні, абмацвалі, а потым, загадаўшы сашчапіць рукі за спіной, павялі ўніз, у "варанок". Побач са мной сядзеў пажылы сівы старшына. Ён паглядзеў на гадзіннік на маёй руцэ і злосна вымавіў:

— Бачыш, гадзіннік, відаць, бацька купіў, а ты па клубах лазіш — і чаго вам не хапае?

Мне было крыўдна да слёз, бо ніякай віны за сабой не адчуваў, адно толькі дакараў, што згадзіўся пайсці на той праклятый більярд.

У дзяжурным пакоі міліцыі невысокага росту капітан доўга запісваў нашы дадзеныя. Дайшоўшы да майго прозвішча, ён запытаў:

— А гэта не твой бацька ў пазаведамаснай ахове брыгадзірам вартаўнікоў працуе?

Я моўчкі кіўнуў галавой.

— А ну, паклічце ягонага бацьку! — загадаў капітан, — У іх якраз зараз нарад перад начной зменай. Хай на сынка палюбуецца!

На шчасце, бацькі не аказалася, і я крыху ўздыхнуў з палёгкай, бо такой сустрэчы баяўся больш за ўсё.

Між тым нас завялі ў нейкі пакой, далі чатыры ліcткі паперы і адну ручку на ўсіх і загадалі кожнаму пісаць тлумачэнне.

— Нас пасадзяць, нас пасадзяць! — канючыў Колька Тапуноў. — А тыя ж, што ў трыбуне схаваліся, ужо напэўна дома. Пісаць пра іх ці не?

— Ты што? — запярэчыў я. — Сяброў не выдаюць!

— А ну памаўчы! — прыкрыкнуў на Кольку Ман. І працягнуў ручку мне.

— Пішы, ты ж у нас выдатнік. А мы ўсе спішам.

Я пачаў складаць тэкст. Думкі блыталіся, было страшна і крыўдна. Але так узяў сябе ў рукі, што нават праверыў памылкі ў хлопцаў.

Выпусцілі нас няхутка. Але мы былі рады, што выпусцілі. Моўчкі кіўнулі адзін аднаму і разбегліся па дамах.

Назаўтра ў школе мы раз-пораз збіраліся разам, перашэптваліся. А дзядзька Том падышоў да мяне і моўчкі паціснуў руку.

Прыгода патроху стала забывацца, ды раптам нашых бацькоў выклікалі на камісію па справах непаўналетніх. Але ўсё абышлося: высветлілася, што загадчык клуба Антон моцна празладзюжыўся, а ўсё хацеў спісаць на нас. Але паколькі ў нас нічога не знайшлі, то мы аказаліся ні пры чым. Праўда, бацька ўсё роўна накрычаў на мяне. А дзядзька Том і Хадора сядзелі ў зачыненым клубе амаль цэлую ноч, і толькі пад раніцу выбраліся на волю.

Так што вось такі більярд атрымаўся.

### У ЛЕТНІКУ

Самай любімай кніжкай у дзяцінстве ў мяне была аповесць Вольгі Асеевай "Васёк Трубачоў і яго таварышы". Прачытаў яе яшчэ ў першым класе. І калі ўлічыць, што чытаць самастойна навучыўся за два гады да школы, гэта была далёка не першая мая кніжка. Але ўразіла яна мяне больш за ўсе, раней прачытаныя. Яркая гісторыя пра гераічны піянерскі атрад, пра мужнага і вернага Васька так запала ў душу, што зноў і зноў вяртаўся ў думках да любімых персанажаў. А яшчэ вельмі хацелася хутчэй стаць піянерам, адчуць асалоду сапраўднага калектыву, калі побач надзейныя сябры, калі яднаюць усіх карысныя справы, калі наперадзе ва ўсіх адзіная мэта і адзіная на ўсіх перамога.

Я марыў паехаць у піянерскі лагер, хадзіць на лінейкі, мераць крок пад грукат барабана, спяваць песні ля вогнішча.

І можаце ўявіць маю радасць, калі аднойчы, перад самым заканчэннем навучальнага года, бацька прыйшоў з працы, запытаў:

— Хочаш паехаць на лета ў піянерскі лагер? Дзядзька Раман дастаў пуцёўку Барысу і табе.

Барыс быў мой стрыечны брат, які ўжо заканчваў чацвёрты клас і быў сапраўдным піянерам.

Потым бацька дадаў, падумаўшы:

— Праўда, ты яшчэ маленькі, таму калі баішся, заставайся дома. Можа, табе і ранавата пакуль аднаму з дому.

— Не ранавата! — горача запярэчыў я. — Не ранавата. Хачу ў лагер!

Доўга потым успамінаў гэтую размову, і заўсёды заліваўся чырванню сораму і шкадавання.

Але па парадку. Наш піянерскі лагер "Ленінец" размяшчаўся на беразе прыгожага возера ля вёскі Казімірава, што ў пятнаццаці кіламетрах ад Полацка, у былой панскай сядзібе.Двухпавярховы цэнтральны корпус з чырвонай цэглы — будынак школы, вялікі двор з драўлянымі пабудовамі — сталовай, спальнямі... Усё гэта падалося такім цікавым і рамантычным, што сэрца спявала ад радасці, душа поўнілася прадчуваннем цікавых спраў і здзяйсненняў.

Па прыездзе аказалася, што я — самы малы нават для першага атрада, а брат павінен жыць сярод больш старэйшых, і нас, такім чынам, з ім адразу разлучылі.

Мяне з маім фібравым чамаданам з вострымі вуглямі прывялі ў вялікі класны пакой на другім паверсе, перабсталяваным пад спальню, дзе стаяла дваццаць жалезных ложкаў з панцырнымі сеткамі.

Хлопцы былі ўсе незнаёмыя. У асноўным, старэйшыя на год, а то і два. Паколькі, як аказалася, лагер быў для дзяцей сельскіх педагогаў, то з'ехаліся яны з многіх раёнаў, полацкіх амаль не мелася.

Я, поўны жадання, хутчэй завесці сабе сяброў, радасна заўсміхаўся кожнаму.

— Хочаш, фокус пакажу? — падскочыў да мяне ладна збіты каранасты хлапчук, як потым аказалася, сын начальніка Дрысенскай міліцыі Валодзя Крук.

— Які фокус? Давай лепш у цікавую гульню згуляем! —азваўся тут жа другі: тонкі, белабрысы. — Станавіся!

Яны паставілі мяне спінай да сябе, правай рукой я ўзяўся за галаву, а далонь левай выставіў з-пад пахі. Я павінен быў угадаць, хто дакранецца да маёй далоні.

Так і стаяў, чуючы за спінай сапенне і сцішанае хіхіканне. І раптам страшэннай сілы ўдар ледзь не зваліў мяне з ног. Было балюча. Стараючыся не паказаць гэтага і крыва ўсміхаючыся, я азірнуўся. Разам з Воўкам і белабрысым весела скалілі зубы яшчэ двое.

Хто ўдарыў з іх, я канечне, не ўгадаў. Не ўгадаў і другі, і трэці, і чацвёрты раз... Хлопцаў за маёй спінай станавілася ўсё больш. Я разгублена ўсміхаўся, далонь гарэла, балела плячо, і, здаецца, канца гэтаму катаванню не будзе.

Спыніў экзекуцыю брат, які прыйшоў паглядзець, як я ўладкаваўся.

— Ты што, дурны? — спытаў ён, калі ўсе разышліся. — Не будзь такім лапухом, не купляйся на дзяшоўку...

— Чаму ж ты не сказаў адразу, што ў цябе старэйшы брат тут? — міралюбіва спытаў мяне за вячэрай Воўка Крук. — Мой браценік з тваім у адным атрадзе. Так што нас з табой ніхто не кране.

Я ўжо разумеў, што "кранаць" слабейшага для многіх было любімым заняткам. Асабліва пасля першай ночы, калі, радасна рагочучы, Воўка з кампаніяй прывязалі ніткамі да ложка ціхмянага вясковага хлапчука Валеру, які салодка захрапеў, ледзь дакрануўшыся да падушкі. Потым яны ўставілі паміж пальцаў ног бедалагі запалкі, падпалілі іх. Валерка заторгаўся ад болю, пастрабаваў ускочыць, ніткі балюча ўпіліся ў цела. Рогат стаяў невераґодны.

Я не заплючшваў вачэй да самага пад'ёму, ляжаў, гледзячы ў столь, слухаючы, як сапуць хлопцы, як ціха ўсхліпвае Валера. Усё было так не падобна на тое, што чытаў у кнігах: і брыдкія словы, і салёныя анекдоты і калектыўныя здзекі з ціхмяных і няўклюдных равеснікаў.

Радасны стваральны настрой неяк не заладжваўся. Ні назаўтра, ні на паслязаўтра. Мяне ніхто не чапаў, бо ў суседнім атрадзе быў старэйшы брат, але гэта не суцяшала. Не суцяшалі і маладыя выхавацелі, якія, здаецца, не надта цікавіліся намі. Яны, па-мойму, ніяк не маглі дачакацца адбою, каб пакінуўшы нас "у палаце", а самім некуды таямніча знікнуць.

Хлопцы гучна абмяркоўвалі, хто з кім з выхавацеляў гуляе, апісвалі такія падрабязнасці, што ад сораму хацелася заткнуць вушы. Брат, як мог, падбадзёрваў мяне, стараўся развесяліць. Часам гэта яму ўдавалася, і на кароткае імгненне я станавіўся звычайным. А потым зноў агортваў сум.

Праз тыдзень наступіў "бацькоўскі" дзень. Прыехаў і мой тата, ад якога так востра павеяла хатнім і цёплым, што адразу захацелася плакаць. Але я стрымаўся.

Праз гадзіну тата павінен ад'язджаць. Я правёў яго да самага аўтобуса.

— Ну, падабаецца табе тут, сынок? — спытаў бацька.

— Падабаецца... — Голас у мяне па-здрадніцку здрыгануўся, але ён, здаецца, гэта не заўважыў.

І пацягнуліся дні і гадзіны, якія я адлічваў, чакаючы жаданага "дзембеля". Здаецца, гэтага ніхто не заўважаў. Мы купаліся, загаралі, хадзілі ў лес. Па вечарах ладзіліся танцы, і старэйшыя падбухторвалі нас з Воўкам Круком, каб мы запрашалі на скокі дзяўчынак. Я два разы пабіўся з хлопцамі з-за нейкай драбязы і, здаецца, не прайграў.

Але пачуццё расчаравання і нейкай горкай страты не праходзіла. Я зразумеў, што жыццё крыху не такое, як тое, пра што чытаў, што шчырае сяброўства і вернасць трэба доўга шукаць, што свой гонар і незалежнасць трэба адстойваць у барацьбе, што цяжка і адзінока, калі няма каму за цябе заступіцца, што свет жорсткі і грубы...

Я ўпершыню адчуў адзіноту і ўнутраную безабароннасць, якую пажадана нікому не паказваць.

Я яшчэ не ведаў, што ў гэтым адчуванні не адзінокі, што многія мае сябры-таварышы адчувалі тое ж самае, але не прызнаваліся.

На другую змену я, нягледзячы на ўсе ўгаворы, не застаўся.

ФЭСТЫ

# ЖОДЗІНСКІ АКОРД

**Вось ужо другі год запар пад свята будаўнікоў у Жодзіне ладзіцца рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні "Белазаўскі акорд". Сёлета яго правядзенне прымеркавалі да 55-годдзя вытворчага аб'яднання "БелАЗ".**

Па-добраму ўразіў і якасны склад спевакоў-канкурсантаў, і высокі агульны ўзровень правядзення гэтай імпрэзы, і яе прадстаўнічасць. Дастаткова сказаць, што ўрачыстую частку конкурсу адкрываў генеральны дырэктар ВА "БелАЗ" герой Беларусі Павел Марыеў, а ў журы былі запрошаны такія паважаныя майстры беларускага мастацтва, як спявак Анатоль Ярмоленка, кампазітар Леанід Захлеўны, паэт Уладзімір Карызна, а таксама такія папулярныя прадстаўнікі маладога пакалення артыстаў нашай эстрады, як Аляксандра Кірсанава і Сяргей Мінскі. А калі ўлічыць, што праграмы двух конкурсных дзён вялі тэлезоркі Ларыса Грыбалёва і Ягор Хрусталёў, дык можна толькі ўяўляць, як хваляваліся спевакі-пачаткоўцы ў асяроддзі вядомых асоб.

Канкурсантаў аказаўся чортаў тузін. Менавіта 13 хлопцаў і дзяўчат з усіх рэгіёнаў Беларусі былі дапушчаны да спаборніцтва ў выніку папярэдняга праслухоўвання-прагляду дасланых у аргкамітэт "Белазаўскага акорда-2003" аўдыа- і відэазапісаў. А ўвогуле на ўдзел у конкурсе паступілі 53 заяўкі. Тыя, хто ўрэшце трапіў у склад удзельнікаў, могуць цяпер пахваліцца, што прайшлі сапраўднае баявое хрышчэнне на прафесійнай сцэне. Бо ўмовы конкурсу былі даволі жорсткія, нягледзячы на добразычлівасць журы і публікі. Ацэньваліся рэпертуар, сцэнічны вобраз і, зразумела ж, вакальныя дадзеныя спевакоў. Дарэчы, годныя пеўчыя галасы (як кажуць, "вакальны матэрыял") былі літаральна ва ўсіх, хто выходзіў на сцэну Палаца культуры БелАЗ, каб паўдзельнічаць у спаборніцтве. Як кажуць, "спявалі ўсе". Насамрэч. А вось свой індывідуальны стыль, тую самую "разынку", якая заўсёды вызначае талент, адшукалі пакуль што нямногія.

Лідэрам паводле вынікаў двух тураў стала Наталля Нарко з Дзяржынска, якая атрымала першы прыз — вялікі тэлевізар "Гарызонт". Наталля вызначылася не толькі арганічнасцю сцэнічных паводзін і шырокім дыяпазонам багатага па тэмбры голасу, але і вельмі ўдалым выбарам песні ў 1-м туры. Драматычная "Балада пра Нямігу" Дзмітрыя Далгалёва на вершы Уладзіміра Пецюкевіча так дакладна адпавядала сцэнічнаму вобразу дзяўчынкі, яе спеўнай манеры, што патрабавальныя журы адразу ж вызначыла ў яе асобе бясспрэчную фаварытку конкурсу. Удала выступіла і выхаванка вакальнай студыі пад кіраўніцтвам вядомага беларускага кампазітара Алены Атрашкевіч мінчанка Дар'я Урызчанка, якая стала ўладальніцай 2-й прэміі (тэлевізар "Селена"). А 3-ю (малагабарытны тэлевізар "Гарызонт" ды музычны цэнтр) падзялілі Святлана Шкадровіч з Бабруйска і Дзмітрый Даніленка з Гомеля. Апошняму канкурсанту дастаўся яшчэ і прыз "За любоў да роднай песні". Спецпрыз журы "За сцэнічную абаяльнасць" атрымала бабруйчанка Марына Гумянюк, а для Алены Вырвіч з Магілёва за яе незвычайны сцэнічны касцюм (гаржэтка з лісіцы ў выглядзе... топіка) вынаходлівы Анатоль Ярмоленка прыдумаў прыз "За пошук арыгінальнага вобраза". Ну, а Аляксей Лескавец з Бярэзіна ды Віталь Жыгімонт з Жодзіна ганараваліся прызамі глядацкіх сімпатый. Зразумела, што за апошняга выканаўцу публіка хварэла асабліва эмацыянальна. І Віталь не падмануў чаканняў, скарыўшы сваіх землякоў-балельшчыкаў пяшчотным голасам і шчырасцю выканання. Сапраўдным падарункам яму была прапанова вядомага прадзюсера Сяргея Цітова, які таксама быў адным з ганаровых гасцей конкурсу, узяць удзел у канцэртным туры па Беларусі разам з Сяргеем Мінскім.

Увогуле, ад конкурсу "Белазаўскі акорд—2003" і ва ўдзельнікаў, і ў жодзінскай публікі, і ў членаў журы, і ў запрошаных асвятляць яго падзеі журналістаў — самыя добрыя ўражанні. Шчыра кажучы, я прапанавала б заснаваць яшчэ адзін спецпрыз — для яго арганізатараў, — пад назвай "За любоў да сваёй справы". І ўзнагародзіла б ім дырэктара Палаца культуры БелАЗ Генадзя Смольскага. Менавіта ён разам з дружнай і прафесійнай камандай сваіх аднадумцаў наладзіў у невялікім Жодзіне такую значную імпрэзу, якая сталася часткай агульнага свята горада і прадпрыемства-юбіляра ў прыватнасці. Сапраўды, таленавітымі бываюць не толькі артысты, але і арганізатары. І менавіта ад іх залежыць поспех той ці іншай справы. У гэтым сэнсе жодзінскаму конкурсу вельмі пашанцавала. Яго заснавалі людзі ініцыятыўныя, творчыя і апантаныя, неабыякавыя да беларускай песні і беларускага слова. А таму, я ўпэўнена, роўна праз год чарговы "Белазаўскі акорд" павінен загучаць зноў — гэтак жа зладжана і значна. А яго пераможцы з цягам часу абавязкова стануць зоркамі нацыянальнай эстрады.

**Вольга БРЫЛОН**

*На здымках: пераможца конкурсу "Белазаўскі акорд-2003" Наталля НАРКО.*

**Фота Вольгі АНІСКЕВІЧ**

МУЗЫКА

***Як вядома, падчас Дзён Беларусі ў Маскве адбыўся шэраг культурных акцый. У тым ліку — з удзелам творчых калектываў Віцебскай вобласці. На канцэртных пляцоўках сталіцы Расіі выступілі ўзорны вакальна-харэаграфічны ансамбль "Зорка", ансамбль песні, музыкі і танца "Талака", актэт балалаек "Віцебскія віртуозы", саліст абласной філармоніі Леанід Кажарскі, ансамбль цымбалістаў "Росіца" і іншыя. Актэт балалаек выправіўся ў першапрастольную ўжо другі раз. А першае выступленне запомнілася віцебскім віртуозам на ўсё жыццё. Гэта быў V Усесаюзны конкурс артыстаў эстрады, на якім адбылася сенсацыя — тады яшчэ нікому не вядомы малады калектыў стаў уладальнікам I прэміі. Мы гутарым з кіраўніком ансамбля, заслужанай артысткай Беларусі Тамарай ШАФРАНАВАЙ***



# ВІРТУОЗЫ. ВІЦЕБСКІЯ

***— Уявіце сабе, што я нічога не ведаю пра ваш калектыў, яго творчую гісторыю. Як ён нараджаўся?***

— Увогуле ў той час (размова ідзе пра 70-я гады XX стагоддзя) у самадзейнасці быў вельмі распаўсюджаны інструментальны жанр. І ў Віцебску ансамбляў народных інструментаў было шмат. Але мы мелі вялікае жаданне арганізаваць калектыў арыгінальны, не з баянамі, домрамі, цымбаламі, як ва ўсіх. А я яшчэ студэнткай кансерваторыі грала ў ансамблі, які і называўся, і з'яўляўся актэтам балалаек. Калектыў складаўся з выкладчыкаў, я толькі адна была студэнтка. І вось вырашыла стварыць такі ансамбль тут, у Віцебску. Канечне, напачатку не было для такога складу патрэбных інструментаў, асабліва цяжка было знайсці балалайку-пікала і балалайку-кварта, якія не ўжываюцца нідзе ў аркестрах. Васіль Васільевіч Андрэеў некалі стварыў іх, пачаўшы сваю партыю з самай маленькай (пікала) і канчаючы самай вялікай — кантрабасам. І ўсё ж сабраліся мы, энтузіясты, у кастрычніку 1973 года на сваю першую рэпетыцыю. Усе музыканты былі педагогамі Віцебскага музвучылішча і толькі Вольга Градоўкіна — студэнтка. Мы ведалі, што ў Мінску ў сакавіку 1974 года меў адбыцца І Рэспубліканскі конкурс артыстаў эстрады. Так што ў верасні арганізаваліся, а праз 5 месяцаў ужо рызыкнулі паехаць у Мінск — больш паслухаць іншых, чым сябе паказаць. Былі, вядома, здзіўленыя свайму каласальнаму поспеху. Нам сказалі: "Мы вас адправім на конкурс у Маскву, але трэба папрацаваць над рэпертуарам, дадаць беларускія творы". А мы тады ігралі з нацыянальнага рэпертуару толькі "Польку" Чуркіна. Мне прапанавалі новую п'есу Яўгена Глебава (потым яна зрабілася вельмі папулярнай) — "Гумарэска", напісаную для эстрадна-сімфанічнага аркестра. Я яе перакпала для актэта балалаек, атрымалася здорава.

***— Склад у вас з таго часу памяняўся?***

— Зразумела. Калектыў жа жаночы. З ранейшага складу засталіся тры чалавекі — гэта Людміла Раманава, Людміла Стрыжонак і я. Аснова калектыву — выпускнікі Белдзяржкансерваторыі (цяперашняй акадэміі музыкі), Людміла Лаўрыкава скончыла Ленінградскую кансерваторыю. Статус прафесійнага калектыву мы атрымалі, калі сталі лаўрэатамі Усесаюзнага конкурсу. Пачалі працаваць на базе музвучылішча, бо тады ў Віцебску не было не тое што філармоніі, а наогул уласнай канцэртнай арганізацыі.

***— "Віцебскія віртуозы" сталі, напэўна, першымі штатнымі артыстамі абласной філармоніі, што ўтварылася ў 1988 годзе?***

— Так. Потым прыйшоў ужо Леанід Кажарскі ды іншыя артысты. Канечне, напачатку былі цяжкасці. І ў сувязі з бягучасцю кадраў. І ў сувязі з тым, што гэта была не асноўная праца і яе нам ніхто не аплачваў. Нас запрашалі ў Мінск на ўсе ўрачыстыя канцэрты, з нагоды розных святаў, мы выступалі на ўсіх буйнейшых сцэнах Мінска — у оперным тэатры, Белдзяржфілармоніі, Палацы спорту. Увогуле ў Беларусі з таго часу захаваліся толькі тры творчыя калектывы такога ўзроўню і кшталту — "Песняры", "Сябры" і актэт балалаек.

***— Якія гастрольныя паездкі, якія творчыя кантакты ўспамінаюцца?***

— Ездзілі ў Германію, Польшчу (у 1975, 1976—77 гадах, а потым у 1990-м, апошні раз як турысты, але ўзялі з сабой касцюмы, балалайкі і давалі дабрачынныя канцэрты). У 1999 годзе бралі ўдзел у фестывалі ў Рэзэкне. Выступалі ў Рэспубліцы Комі, у Краснадарскім краі, у горадзе Кемерава ў Расіі. Сам губернатар Аман Тулееў прымаў нас на вельмі вясокім узроўні, кожнай удзельніцы ансамбля падарыў імянны гадзіннік... Нам давялося акампанаваць народным артыстам Беларусі Наталлі Рудневай, Аркадзю Саўчанку, салісту Нацыянальнага тэатра оперы Алегу Мельнікаву. Летась у Прыднястроўі выступалі ў адным канцэрце з Ядвігай Паплаўскай і Аляксандрам Ціхановічам (мы ігралі ў першым аддзяленні, яны спявалі ў другім). Таксама акампанавалі заслужанаму артысту Расіі дамрысту Аляксандру Цыганкову.

***— З пункту гледжання тэхнікі, віртуознасці, майстэрствам ігры на якой з балалаек найбольш цяжка авалодаць?***

— Ігрой на ўсялякім інструменце цяжка авалодаць. Але асноўная нагрузка пры ансамблевым выкананні кладзецца на дзве балалайкі-прымы (гэта Людміла Шчарбіна і Людміла Лаўрыкава). Але ж вельмі складаныя інструменты — і балалайка-пікала (Людміла Стрыжонак) і балалайка-кварта (Аксана Валынец), тым болей, што гэта рэдкія, унікальныя інструменты. Асаблівую ролю ў ансамблі адыгрывае балалайка-альт (выканальніца на якой Таццяна Карпусенка няблага валодае і ўдарнымі інструментамі, якія ўжываюцца ў асобных нумарах). Ды і балалайка-секунда (Аксана Шурынава), якую можна прыпадобніць да альта ў камерным аркестры. Кожны інструмент надае актэту асаблівае тэмбравае гучанне. Так што адно без аднаго мы абысціся не можам...

•

***Цікава, што ва ўсёй Расіі (хаця балалайка як быццам бы і лічыцца рускім нацыянальным інструментам) такога калектыву няма. Там у асноўным ансамблі змяшаныя: домра, балалайка, баян. Многія слухачы па-за межамі Беларусі, тыя ж расіяне, пабыўшы на канцэртах "Віцебскіх віртуозаў", здзіўляюцца: "А мы і не ведалі, што ў Беларусі ёсць такі выдатны калектыў". Таму музыкантам хочацца пабольш канцэртаў, гастрольных паездак, бо ад гэтага ўрэшце залежыць і добрая форма выканання, у гэтым і стымул для творчасці. А то так бывае, што месяцамі сядзяць "Віцебскія віртуозы" ў філармоніі і толькі рэпецыруюць. Нават у Віцебску ў іх бывае мала канцэртаў для шырокага шарагова гледача (усё больш у музычных школах). Даволі дзіўна, што актэт балалаек не запрашаюць выступаць на "Славянскім базары". Няўжо бянтэжыць дастаткова высокі ўзровень майстэрства?.. Але, нягледзячы на праблемы, калектыў плённа працуе, рыхтуе новую праграму да 30-годдзя сваёй творчай дзейнасці.***

**Юрась ІВАНОЎСКІ**
г. Віцебск

*НА ЗДЫМКУ: заслужаная артыстка Беларусі Тамара ШАФРАНАВА.*

***ФОТА В. СТРАЛКОЎСКАГА***

# АНАСТАСІЯ ЯК ВОБРАЗ РАДЗІМЫ

Мне здаецца, надыйшоў час, калі патрэба ў асэнсаванні нашага існавання як дзяржавы, як краіны вельмі і вельмі наспела. А асэнсаванне гэтае мае прамое дачыненне да ведання нашага мінулага, гісторыі краіны, якая завецца Беларусь. А наш кінатворчы багаж у гэтым сэнсе вельмі мізэрны. Я маю на ўвазе, вядома, кіно ігравое, а не дакументальнае. Апошняе гісторыяй сваёй краіны займаецца ўважліва. А вось тое, якое завецца мастацкім і менавіта валодае амаль неабмежаванымі магчымасцямі ўплыву на свядомасць гледача, зрэдку ўглядалася ў мінуўшыну. За восем дзесяцігоддзяў жыцця беларускага кінематографа пастаўлена ўсяго некалькі гістарычных кінакарцін. Факт прыкры, і мае адносіны да таго, што прынята вызначаць такой катэгорыяй як самапавага. Чаму так адбывалася — аднясём да зігзагаў развіцця нашай кінакультуры.

Не думаю, што пастаноўка фільма аб Анастасіі Слуцкай нашым кінематаграфічным асяроддзем успрымалася як нейкая вялікая стратэгічная задума, на якую добра кладзецца трафарэтная фармуліроўка пра жаданне ўнесці вялікі ўклад у скарбніцу нацыянальнай культуры. Усё выглядала больш празаічна. Тэма ўзнікла ледзь не выпадкова, дзякуючы асабістым імкненням аднаго з уплывовых кінадзеячаў заявіць пра сябе, больш трывала замацавацца менавіта ў ігравым кінематографе. Аднак потым, як гэта водзіцца, разгарнулася ўжо гісторыя самой пастаноўкі, калі ўзнікалі сур'ёзныя патрабаванні да якасці сцэнарыя, з'явіліся складанасці ў фарміраванні здымачнай групы і канчатковым прызначэннем галоўнага кінатворца — рэжысёра-пастаноўшчыка, калі разглядалася пытанне, у дадзеным выпадку найважнейшае, хто, у рэшце рэшт, будзе выконваць галоўную ролю...

Карціна нараджалася нялёгка і, шчыра кажучы, мала каму ў тую пару верылася, што з гэтай задумы пастаноўкі вялікага гістарычнага фільма нешта можа атрымацца талковае. Карацей кажучы, песімісты тады пераважалі над аптымістамі. Трэба сказаць, што некаторыя з першых свае меркаванні так і не палічылі магчымым змяніць у лепшы бок і пасля з'яўлення гатовага фільма. Зразумець іх у нейкай ступені магчыма, страты сапраўды ёсць, і не толькі, як прынята лічыць, адносна драматургіі. Без вялікіх намаганняў мастацтвазнаўцы вызначаць іх, бо яны відавочныя. Пры жаданні, адзначыўшы недахоп матэрыяльных пастановачных рэсурсаў, а ён, калі мець на ўвазе маштабы гэтага гісторыка-касцюмнага кінатвора, ёсць, няцяжка разгледзіць і наяўны недахоп рэсурсаў творчых. Але завастраць увагу толькі на апошніх, і не больш таго, значыць абысці вельмі важкі момант існавання кінастужкі як з'явы грамадскай. Відавочна, што карціна атрымала вялікі грамадскі рэзананс. Цалкам адносіць гэта на рахунак удалай рэкламнай кампаніі наўрад ці будзе справядліва.

І вось калі прагучала з розных вуснаў вядомае "фільм адбыўся", пачалося актыўнае жыццё на экране новай стужкі "Беларусьфільма", якая, у адрозненне ад іншых, не праскочыла мімаходзь, а заняла сваё прыкметнае месца ў культурным жыцці рэспублікі. Зусім не ўсе крытыкі карціны засталіся такімі абставінамі задаволеныя, але факт застаецца фактам, і, паўтараюся, не толькі вядомая "раскрутка" фільма з боку СМІ паслужыла таму прычынай. Карціна з'явілася акурат у патрэбны час, своечасова, — жанчына з далёкага мінулага, жанчына-маці і ваіцельніца, аказалася патрэбнай многім гледачам, жадаючым, можа не заўсёды і ўсвядомлена, бачыць такіх герань на экране, гэта значыць герань не з заёмнага іншаземнага гістарычнага жыцця, які, кажуць, не ў вопратцы з чужога пляча, а з нашай мінуўшчыны, пра якую глядач, на жаль, так мала ведае, і пра якую наша кіно не вельмі імкнулася апавядаць, чамусьці не лічыла гэта цікавым, патрэбным.

Галоўная гераіня фільма — жанчына... Перабіраю ў памяці, удакладняю і па надрукаванай фільмаграфіі стужак, і знаходжу ўсяго мінімум карцін, прытым не самага лепшага гатунку, дзе б у цэнтры апавядання быў жаночы лёс. Гераічны вобраз Анастасіі Слуцкай наяўна больш выразна глядзіцца на гэтым фоне. Мне здаецца, вось такая жанчына, такога лёсу, якая прыйшла на сённяшні кінаэкран з даўняй даўніны, не можа не знаходзіць водгук у сэрцы нашых шчаслівых і нешчаслівых сучасніц, бо час ад часу жыццё ставіць перад імі нешта падобнае, хай не па маштабах дзеянняў, а па сутнасці ўчынкаў, жаночае глядацкае пачуццё робіць блізкім далёкія эпохі, бо гэты глядач умее сябе бачыць і ў вобразе далёкай Анастасіі. ***Калі нехта прыме вобраз Анастасіі як вобраз Радзімы, убачыць у ёй рысачкі зямлі нашай, народа нашага, то гэта будзе адпавядаць сэнсу праробленай творчай працы.***

Трэба сказаць, што мастацкі савет кінастудыі ў свой час паступіў празарліва, вызначыўшы на ролю Анастасіі актрысу Купалаўскага тэатра С. Зеляякоўскую. Я бачыў на кінапробах прэтэндэнтак з Масквы. Можа, яны не горшыя па акцёрскіх дадзеных, але ў іх адсутнічала тое, што ёсць у Зеляякоўскай — беларускасць. Вельмі добра, што нашы кінематаграфісты ў апошні час павярнуліся тварам да сваіх беларускіх акцёраў. Сказаўшы так, падумалася, а ці не смешна гэта акцэнтаваць сёння ўвагу на ўдзеле беларускіх акцёраў у кіно, бо паводзім сябе такім жа чынам як рэцэнзенты 30-х гадоў. Тое, што яны па-дзіцячы радаваліся тады першым кінапоспехам беларускіх артыстаў, рэч больш чым зразумелая. Але сёння?! Праз мноства гадоў аказваецца застаецца вялікая падстава радавацца таму ж і задаволена ўздыхаць: "Нарэшце!".

Гаворачы пра гераіню фільма, іншых кінагерояў (Арслан у выкананні В. Рэдзькі, Друцкі ў выкананні А. Ката) было б дарэчы звярнуцца яшчэ да аднаго героя, з якім, на жаль, стваральнікі фільма абыйшліся не лепшым чынам. Гэты кінагерой — наша беларуская прырода. Здавалася дзе, як не тут, у карціне пра далёкую гісторыю, адкрываліся велізарныя магчымасці ўбачыць сваю краіну ў яе спрадвечнай непаўторнай прыроднай красе. Але, надзіва, не адбылося, не хапіла аўтарам ландшафтнага зроку, рэчы, якая таксама дапамагае бачыць асобныя падзеі ў гістарычным кантэксце. Маштабныя фігуры з мінулага, такія як Анастасія Слуцкая, ці, скажам, больш вядомая Еўфрасіння Полацкая, патрэбны сёння для таго, каб будзіць нашу гістарычную памяць. Таму бачу пэўную заканамернасць у самім факце з'яўлення на "Беларусьфільме" падобнай кінакарціны ў сённяшнія часы.

**А. КРАСІНСКІ**



***На гэтым тыдні завяршыў сваю работу IV Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў "Брэст—2003". На жаль, тэрмін выхаду штотыднёвіка не дазволіў нам змясціць інфармацыю аб выніках фэсту. Але вядома, што адным з прэтэндэнтаў на Гран-пры фестывалю ("За лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы") быў найноўшы фільм кінастудыі "Беларусьфільм" "Анастасія Слуцкая", падрабязна распавесці пра які на старонках "ЛіМа" пакуль не выпадала.***

***Сёння "Анастасія Слуцкая" мае ўжо некалькі пачэсных узнагарод, прывезеных з IV Міжнароднага фестывалю акцёраў кіно "Стажары" (Кіеў), VI Міжнароднага кінафестывалю "Брыганціна" (Бердзянск), XII Адкрытага фестывалю краін СНД і Балтыі "Кінашок" (Анапа). Гэты фільм стаў першай беларускай карцінай, легальна выпушчанай сумеснай беларуска-расійскай кампаніяй "ВідэаМакс" на відэакасетах накладам у 5 тысяч копій. Рэдакцыя "ЛіМа" палічыла, што чытачам будзе цікава даведацца, што думаюць пра ўжо нашумелую і даволі разрэкламаваную, з поспехам пракатаную па Беларусі карціну (прынамсі, сёння "Анастасію Слуцкую" паглядзелі звыш 26 тысяч мінчан ) вядомыя беларускія кіназнаўцы, гісторыкі, пісьменнікі. З гэтага нумара мы пачынаем адкрытае абмеркаванне фільма, які ў мэтах ідэалагічнага выхавання сёння абавязаны паглядзець настаўнікі і школьнікі 8—11 класаў. Побач з водгукамі мастацтвазнаўцы, навуковага рэдактара каталогу "Усе беларускія фільмы" Анатоля Красінскага і кінакрытыка Алы Бабковай публікуецца і цытата з газетнага артыкула, прысвечанага фільму .***

# АБ ДВАЯВЕРСТВЕ

Пасля таго, як скончыўся сеанс у кінатэатры "Мір", адна глядачка гадоў пяцідзесяці вынесла свой вердыкт стужцы "Анастасія Слуцкая": "Для нашага ўзроўню — гэта нармальны фільм". Шкадую, што не распытала яе, бо дагэтуль чула або апалагетыку на адрас карціны, або рэзка негатыўныя водгукі. Мне здаецца, што "Анастасія Слуцкая" дае падставу для асэнсавання як станоўчага, так і адмоўнага вытворча-творчага вопыту "Беларусьфільма".

Калі шукаць ідэйна-тэматычныя аналогіі ў кіно (падкрэслю: менавіта ідэйна-тэматычныя; мастацкія якасці вышэй за дужкі), то трэба нагадаць "Аляксандра Неўскага" Эйзенштэйна, пастаўленага ў 1938 годзе. І ён, і наш фільм з'яўляюцца кінаплакатам з героямі, з вуснаў якіх гучаць патрыятычныя лозунгі. Ды толькі наша карціна спазнілася гадоў гэтак... Не буду весці адлік ад кінематаграфічнага цара Гароха. Вазьму сярэдзіну 1990-х гадоў, калі Міхаіл Пташук аддаваў усе свае фізічныя і творчыя сілы, каб зрабіць на "Беларусьфільме" "Вітаўта" па сцэнарыі Аляксея Дударава. І гэта быў амаль па ўсіх мастацкіх паказчыках — драматургіі, рэжысёрскай распрацоўцы — нацыянальны праект (потым Аляксей Дудараў пераўтварыў сцэнарый у п'есу, якая не без поспеху ідзе ў купалаўцаў). Аднак у тую пару дзяржаўныя інстанцыі і адміністрацыя кінастудыі не былі так зацікаўлены ў пастаноўцы, як гэта здбылося зараз. Таму не магу далучыцца да тых калег, якія выстаўляюць стужцы суцэльныя плюсы. Усяму свой час, калі мы хочам суадносіцца з ім.

Па сваёй сэнсавай накіраванасці фільм "Анастасія Слуцкая" застаўся, на мой погляд, у савецкім часе. Але ёсць і тое, што адрознівае яго ад тыповага савецкага казеннага фільма. Калі гаварыць пра драматургію, то ўпершыню ў кіно постсавецкай прасторы прадстае гістарычная сітуацыя дваяверства, г.зн. суіснавання на Беларусі ў XVI ст. язычніцтва (паганства) і хрысціянства. На жаль, сцэнарыст Анатоль Дзялендзік і рэжысёр Юрый Яхоў не надзялілі персанажаў (ні язычнікаў, ні хрысціян) духам эпохі. Адносіны праваслаўнай княгіні Анастасіі з ідалапаклоннікам Будзімірам, як і іншымі персанажамі, даволі невыразныя, а адсюль — згублена эмацыянальная вастрыня і напружанасць усяго фільма. Хаця — на гэтым трэба засяродзіць увагу — вонкавы, відовішчны эфект атрымаўся: на замовы знахаркі Жданы, на адурманьванне ворага палёнымі травамі, на лясных людзей у ваўчыных скурах і на аксесуары на прыгожым убранні князёў і іх асяроддзя — глядзець на ўсё гэта цікава (касцюмы зроблены Аленай Ігруша і Жанай Капуснікавай, мастак Валерый Назараў, аператар Таццяна Логінава).

"Трымае" фільм, як мне падаецца, ансамбль акцёраў другога шэрагу — Вераніка Круглова, Таццяна Мархель, Анатоль Кот, Мікалай Кірычэнка, Віталь Рэдзька, Вячаслаў Саладзілаў, Фуркат Файзіеў. Адчуваю, як ад іх ідзе энергетыка, як ім падабаецца апранацца ў гістарычныя адзенні і даспехі (можа, гэта толькі маё ўспрыманне). Ведаю Святлану Зеляякоўскую па тэатральных ролях і бачу ў ёй артыстычны патэнцыял. Аднак у гэтым фільме яе фабульная лінія спрошчана (хаця асобныя планы, напрыклад, у эпізодзе сустрэчы з татарскім ханам уражваюць). Калі стваральнікі пайшлі па напрамку кінаплаката, дык і стыль трэба было вытрымліваць, а ён "хістаецца" ў розныя бакі, надаючы фільму мастацкую эклектычнасць.

Дык падагульнім наконт вопыту. "Анастасія Слуцкая" сведчыць аб тым, што беларускае кіно яшчэ застаецца ў савецкім "мундзіры", але тое-сёе бярэ з нацыянальнай скрыні і аваладвае шляхамі да гледача. Так бы і адзначыла: вытворча-творчае дваяверства нашага часу.

**Ала БАБКОВА,**
**крытык**

**ЦЫТАТА**

**"...Без перабольшвання агульнанародная ўвага да гэтай стужкі прыкавана не толькі таму, што ў свой час яна была падтрымана непасрэдна Прэзідэнтам нашай краіны і адпаведным чынам ім прафінансаваная, а і таму, што фільм стаў сведчаннем таго, што айчынны кінематограф даў падставы гаварыць пра пэўныя найноўшыя тэндэнцыі і накірункі яго развіцця...**

**...І аптымісты, якія называюць яго шэдэўрам айчыннага гістарычнага кіно, і песімісты, якія аргументавана даводзяць, што не ўсё ў фільме бездакорна і гладка, усе сыходзяцца на адным — фільм атрымаўся. Прычым, на высокім, дабротным узроўні, што сведчыць не толькі аб прафесіяналізме яго стваральнікаў, але ж і аб тым, што айчыннае кіно не збіраецца, як у рэзервацыі, жыць "сваім" жыццём, а даволі пралічанымі крокамі імкнецца ўпісацца ў еўрапейскую кіноіндустрыю. І, безумоўна, адным з такіх крокаў павінна стаць "Анастасія Слуцкая".**

**"КУЛЬТУРА", 28 чэрвеня — 4 ліпеня, 2003 г.**












# СВЯТА ПРАЦЫ І ПЕСНІ

У нашай краіне стала добрай традыцыяй праводзіць рэспубліканскія Дажынкі ў невялікіх мястэчках, якія вядомыя жыхарам усёй Беларусі сваім слаўным мінулым. Такі падыход адпавядае прапанаванай Прэзідэнтам канцэпцыі развіцця малых гарадоў. У гэтым годзе дзякуючы гэтай канцэпцыі шасцісотгадовыя Пружаны памаладзелі, набылі еўрапейскае аблічча. Распачынаючы цырымонію ўшанавання абсалютных пераможцаў рэспубліканскага спаборніцтва па жніве і нарыхтоўцы кармоў, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адзначыў асаблівую складанасць і цяжкасць сёлетняй уборкі. Ураджайнасць зернавых у сярэднім склала 27 цэнтнераў з гектара, намалочана 5,5 мільёна тон зерня. І самае галоўнае, — сёлета больш як 700 тысяч тон з гэтага ўраджаю складае пшаніца, якую Беларусь вырасціла ўпершыню, а яшчэ зусім нядаўна закупляла ў замежжы. Лішкі харчовага жыта будуць рэалізаваныя на знешніх рынках.

Аляксандр Лукашэнка ў рамках наведвання райцэнтра ўдзельнічаў ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця важнага сацыяльнага аб'екта — гарадскога Дома культуры на 600 месцаў.

Пераможцы рэспубліканскага спаборніцтва, якія занялі першыя месцы па ўборцы збожжавых і нарыхтоўцы кармоў, атрымалі з рук Прэзідэнта ўзнагароды, некаторыя паехалі дамоў на новых уласных аўтамабілях.











# У АДКРЫТЫМ ФАРМАЦЕ

"Мы — хочам жыць у сучаснай краіне. Таму мы жадаем бачыць сучасны тэатр. Тэатр, які б распавёў гісторыю пра нас, нашае пакаленне, нашу краіну, наш час. Мы хочам пазнаваць у мастацтве сябе і наваколле. Наш дэвіз — праз сучасныя словы да сучаснага тэатра", — менавіта такой з'яўляецца творчая пазіцыя Міжнароднага фестывалю сучаснага тэатра "Адкрыты фармат",



які плануецца правесці ў Мінску з 27 лістапада па 14 снежня. Мастацкі кіраўнік фестывалю, драматург Андрэй Курэйчык, генеральны прадзюсер фэсту Уладзімір Ушакоў (пры падтрымцы Мінкульта РБ) мусяць пазнаёміць сталічных тэатралаў з самабытнымі, цікавымі еўрапейскімі сцэнічнымі творамі. У фестывалі сучаснага тэатра возьмуць удзел тэатральныя калектывы з Беларусі (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, тэатр імя М. Горкага, ТЮГ), Расіі (Цэнтр драматургіі і рэжысуры пад кіраўніцтвам Рошчына і Казанцава), Польшчы (Сучасны тэатр пантамімы з Вроцлава), Чэхіі (Тэатр новага фронта з Прагі), Швецыі (Тэатр "Суен"). Напэўна, самай выбітнай падзеяй фэсту стане паказ новага і ўжо нашумелага спектакля літоўскага рэжысёра Эймунтаса Някрошуса "Вішнёвы сад", які закрые "Адкрыты фармат" у Палацы рэспублікі. Плануецца, што ў Мінск завітаюць такія славутыя рэжысёры і акцёры як К. Сярэбранікаў, В. Субоціна, У. Агееў, Я. Міронаў, А. Пятрэнка, Л. Максакава і многія іншыя.

*НА ЗДЫМКУ: у будучыню глядзіць з надзеяй — А. КУРЭЙЧЫК.*

*ФОТА А. МАЦЮША*

# ТАРАСЫ НА ПАРНАСЕ

7 кастрычніка ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Я. Коласа, што ў Віцебску адкрыўся 78-ы тэатральны сезон. Да гэтага часу коласаўцы разыгралі адразу тры прэм'ерныя спектаклі: фантасмагорыю на тэмы народнай паэмы "Тарас на Парнасе" С. Кавалёва (рэж. А. Ляляўскі), драму "П'емонцкі звер" А. Курэйчыка ў пастаноўцы Ю. Лізенгевіча а таксама "Жанчыну ў пясках" К. Абэ (рэжысёр-дэбютант І. Баяранцаў). Трэба адзначыць, што ў мінулым сезоне менавіта ў Коласаўскім тэатры было пастаўлена найбольш новых спектакляў (аж 12!), а лідэрам па наведванні стала пастаноўка Ю. Лізенгевіча "Непрыступная сеньёра" паводле п'есы Лопэ дэ Вегі.

А вось на першай сцэне краіны — Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы прайшоў толькі адзін прэм'ерны спектакль: "Барух-Эмануэль" Д. Плаксы ў рэжысуры маладога шведскага рэжысёра Н. Рынглер. Але ў планах Купалаўскага тэатра — чатыры новыя пастаноўкі. Напрыклад, спектаклі "Дзікае паляванне караля Стаха" (інсцэніроўка У. Савіцкага), а таксама "Івона, прынцэса Бургундская" В. Гамбровіча ў рэжысуры А. Гарцуева будуць гістарычныя, касцюмныя. Дырэктар тэатра Г. Давыдзька плануе паставіць мюзікл паводле твораў Л. Пранчака "Афрыканская вандроўка", задумалі купалаўцы і ўвасобіць на Вялікай сцэне "Маленькія трагедыі" А. Пушкіна ў перакладзе Р. Барадуліна. (Адзначым, што ў мінулым сезоне гледачы найбольш наведвалі спектакль "Тутэйшыя" Я. Купалы, які быў адноўлены ў 2002 годзе.)

Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага распачаў новы тэатральны сезон (5 кастрычніка) з прэм'еры спектакля "Суцяшальнік удоў" у рэжысуры В. Грыгалюнаса. У бліжэйшых планах гэтага тэатра, у мінулым сезоне якога самым улюбёным спектаклем публікі зрабіўся твор Б. Луцэнкі "Перад заходам сонца", аднаўленне знакамітай "Трохграшовай оперы" Б. Брэхта.

В. Б.



# НА СКРЫЖАВАННІ ДВУХ ВЯКОЎ



***Сёння ААТ "ЦУМ "Мінск" адно з вядучых гандлёвых прадпрыемстваў Беларусі. Дастаткова сказаць, што аб'ём тавараабароту адразу пасля адкрыцця восенню 1964 года складаў 35,2 мільёна рублёў. А ў перыяд рэканструкцыі універмага, якая вялася ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, гэтая лічба перасягнула мяжу ў 150 мільярдаў рублёў. Сёння ж гадавы аб'ём тавараабароту ўзрос у два разы і ў супастаўляльных цэнах роўны 2016 мільярдам рублёў.***

***Фінансавыя вынікі таксама характарызуюцца высокімі паказчыкамі. Узровень рэнтабельнасці адпаведна складаў: у 1965 годзе 2,29 працэнта да тавараабароту, у 1995 — 6,5 працэнта, а за мінулы год лічба рэнтабельнасці роўная 5,90 працэнта.***

***Мала хто помніць, з чаго і як пачыналася дзейнасць гэтага найгалоўнага гандлёвага прадпрыемства рэспублікі. Але ёсць яшчэ жывыя сведкі тых не такіх ужо быццам і блізкіх, ды не такіх і далёкіх гадоў.***

## ГАЛОЎНЫ БУДАЎНІК ЦУМа

Любіць Фёдар Якаўлевіч Крот прагулянкі па праспекце Скарыны. Праўда, не так часта гэта адбываецца, бо і гады, і здароўе далёка ўжо не тыя, калі ён, яшчэ поўны моцы, бадзёрасці і розных летуценняў пра будучыню, забудоўваў гэты самы праспект адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны жылымі і адміністрацыйнымі памяшканнямі. Цяжка яму крочыць, бо што ні кажы, а за плячыма дзевяноста гадоў, а ўсё адно, калі ён, былы ўпраўляючы будтрэста № 1, на долю якога выпала аднаўляць, адбудоўваць спапялёны вайною Мінск з руінаў, вось у тыя самыя хвіліны, калі ён зноў і зноў аказваецца на праспекце Скарыны, на душы ў яго светла, молада, святочна. І бачацца яму ў гэтыя самыя хвіліны пражытыя гады — цяжкія, трагічныя, але адначасова і напоўненыя нечым вялікім, значным, усім тым, што і складала яго доўгае, цяжкае, без перабольшвання, гераічнае жыццё.

— З дзяцінства я — круглы сірата, бо бацькі памерлі ад тыфу і куды мне было падзецца? — згадвае Фёдар Якаўлевіч. — Дзякуючы савецкай уладзе скончыў сямігодку ў Слуцку. Там жа, у Слуцку, паступіў у прафтэхвучылішча, атрымліваў сорак рублёў стыпендыі, харчаваўся ў сталоўцы вучылішча. Словам, з таго часу я займеў прафесію будаўніка, з якою не расставаўся ніколі, да самага выхаду на пенсію...

Расказваючы пра ваенныя гады, Фёдар Якаўлевіч не забыў успомніць І. Варвашэню — мужнага падпольшчыка і партызана, пад непасрэдным кіраўніцтвам якога быў сфарміраваны партызанскі атрад імя Фрунзе, што базіраваўся на тэрыторыі Случчыны і ў баявым складзе якога знаходзіўся Фёдар Якаўлевіч.

Прагналі акупантаў, вызвалілі Мінск, і Фёдару Якаўлевічу работы хапала: сталіца ўся ў руінах, ацалелых дамоў захавалася зусім няшмат.

— Будавалі не толькі жыллё, а і адміністрацыйныя, прамысловыя памяшканні, — кажа Фёдар Якаўлевіч. — Оперны тэатр быў разбураны, былы авіяцыйны завод таксама часткова разбамбіла нямецкая авіяцыя, вось мы, будаўнікі, і стараліся як мага хутчэй вярнуць сталіцу і яе жыхароў да нармальнага, чалавечага жыцця.

Далей Фёдар Якаўлевіч згадвае пра 1958 год, у час якога і заклалі падмурак пад будучы сталічны ЦУМ.

— Цяжкасць узвядзення гэтага гандлёвага дома заключалася ў тым, — падкрэслівае былы ўпраўляючы будтрэста № 1, — што яго задумалі паставіць на балоцістай мясціне. Апроч усяго, вакол былі жылыя драўляныя хаты. Іх трэба было, як кажуць, знесці. А куды падзецца людзям, жыхарам гэтых хатаў? Перасялялі іх на вуліцу Пераносную, цяпер яна называецца інакш — Кузьмы Чорнага. Пасля вайны, дый у пяцідзесятыя гады, людзі, як і дзяржава, жылі бедна, але перасяленцам дзяржава дапамагала як магла: выдзялялі дошкі, цэмент, цэглу...

Не забыў Фёдар Якаўлевіч і таго, што адразу ж, пасля закладкі падмурка пад будучы ЦУМ, нельга было ўстанавіць як след вежавы кран, без якога пра далейшую будоўлю і гаварыць не даводзілася.

— Выйсце з любога становішча можна знайсці, толькі трэба гэтага моцна захацець ды мець за плячыма належны жыццёвы вопыт, — не без гумару зазначае Фёдар Якаўлевіч, — які б я быў упраўляючы будаўнічага трэста, калі б і ў дадзеным выпадку не бачыў, што трэба рабіць? Я асабіста прапанаваў размясціць кран унутры збудавання, бо згодна праекта яно, збудаванне, задумвалася квадратнае, і ў гэтым разе стралы хапала на ўсе чатыры бакі...

Доўга ўзводзілі ЦУМ — шэсць гадоў. Чаму? І на гэта ў Фёдара Якаўлевіча свой адказ:

— Вазьміце апорныя калоны. Па праекце яны павінны былі дастаўляцца на аб'ект у гатовым выглядзе. Але ж мы самі іх рабілі на сваім заводзе. Быў такі на ТЭЦ-3. Мы залівалі аснастку-форму, прыдуманую нашымі дамарослымі вынаходнікамі-рацыяналізатарамі, рыхтавалі гатовую прадукцыю да транспарціроўкі...



А падлога? Першапачаткова яна задумвалася з пластыка. Але хіба гэтакая падлога доўга служыла б ва універмагу, дзе кожны дзень тысячы наведвальнікаў? Гэта ўжо наша, будаўнікоў, ідэя замяніць пластыкавую падлогу на мазаічную. Жыццё пацвердзіла правільнасць нашага рашэння: доўга, да самай рэканструкцыі, служыла мазаічная падлога.

Амаль сорак гадоў назад здаваў Ф. Я. Крот ЦУМ "Мінск" прыёмнай камісіі Мінгарвыканкама, у склад якой абавязкова ўключаліся прадстаўнікі з пажарнай аховы, санстанцыі, з Дзяржбуда, Архбудкантролю... Робячы прагулянкі па праспекце Скарыны, ён часцяком садзіцца на лавачку на плошчы Якуба Коласа і скіроўвае свой позірк у бок ЦУМа "Мінск". Ён бачыць ужо рэканструяванае памяшканне, каля галоўнага ўваходу заўсёды шматлюдна. Так тут з таго самага часу, калі гэты гандлёвы аб'ект уступіў у строй.

## ПЕРШЫ ДЫРЭКТАР

Да таго, як узначаліць працоўны калектыў ЦУМа "Мінск", Іван Іванавіч Каленнікаў працаваў дырэктарам Мінскага Дзяржаўнага універсальнага магазіна, што насупраць Нацыянальнага банка Беларусі. Прызнацца, яму не надта хацелася пакідаць абжытае месца і пераходзіць на новае, дзе ўсё, само сабою, давялося пачынаць з нуля.

— Дзесьці напярэдадні лета 1964 года мяне выклікаў першы сакратар Мінскага прамысловага абкама партыі Міхаіл Іванавіч Лагір. Так, у тую пару існавалі прамысловыя і сельскія абкамы, — пачынае свой аповед І. Каленнікаў. — "Ці не заседзеўся ты, браток, на адным і тым жа месцы?" — пажартаваў Міхаіл Іванавіч. Але я душою пачуў: ніякі гэта не жарт, тут усё вельмі сур'ёзна. І не памыліўся. "Вось што, — працягваў Лагір, — на Ленінскім праспекце, як ты, напэўна, ведаеш, у хуткім часе здаюць у строй новы універмаг, ён пакуль назвы не мае, але за гэтым справа не стане, тут іншае — патрэбен кіраўнік для новага магазіна, і абкам вырашыў, што лепш за цябе ніхто з гэтым не справіцца". Ён гэтак прамовіў і запытальна паглядзеў на мяне: што я думаю? А што я мог думаць?

— Міхаіл Іванавіч! Даражэнькі! За што мне такое пакаранне? Чым я правініўся перад вамі?! План мы даём з месяца ў месяц, калектыў, дзе я зараз працую, стабільны, а ведаеце, колькі мне каштавала нерваў і крыві, пакуль я сабраў гэты калектыў? Не адзін год марокі.

— Не згодзішся з маёй прапановай, то глядзі, каб не пашкадаваў, бо выбар у цябе адзін: альбо ты збіраешся на новае месца работы, альбо...

Іван Іванавіч з'яўляўся камуністам, і любое рашэнне партыі для яго — закон. Словам, ён неўзабаве напісаў заяву аб звальненні з ГУМа (стала замацаваная назва) і пачаў збірацца. Падаўся ён з ранейшага месца працы не адзін — з ім разам у ЦУМ перайшлі сто чалавек, і гэта дужа дапамагло яму вырашаць тыя задачы, якія гэтак неспадзявана ўзніклі. А яны, гэтыя задачы, сапраўды былі няпростыя, бо калі ён толькі з'явіўся на парозе ЦУМа, то ўбачыў не надта відовішчную карціну: яшчэ не поўнасцю закончаны будаўнічыя работы, у гандлёвай зале, у адміністрацыйных кабінетах манціруецца абсталяванне, шліфуецца падлога, вакол пыл, друз, неразбярыха, а яму ледзь ужо не даводзяць план тавараабароту. Паглядзеў ён на ўсё гэта і яшчэ раз пераканаўся, што ох, як ён шкадуе, што не пераканаў І. М. Лагіра, паслухаўся таго, не настаяў на сваім. Адно, праўда, суцяшала: ён усё ж не адзін, з ім перайшлі адчыняць новы універмаг сто чалавек. А гэта немалая сіла, з якой можна было вырашаць шмат што.

Да сярэдзіны восені ЦУМ "Мінск" быў адчынены і пачаў працаваць. Людзей у першыя дні наплыло столькі, што зламалі ўваходныя дзверы, нават міліцыя не дапамагла. Але літаральна на наступны тыдзень сітуацыя нармалізавалася. Іван Іванавіч няспешна хадзіў па гандлёвай зале, і

адчуваў, што ягоная душа быццам поўнілася нейкай светлай, чароўнай музыкай. Бо калі ён першы раз ступіў сюды і ўбачыў, колькі яшчэ заставалася будаўнічых недаробак, то не верыў, што ўсё наладзіцца ў вызначаны тэрмін. А менавіта такую задачу паставіў перад ім М. Лагір — што хочаш рабі, а каб новы універмаг адчыніўся ў сярэдзіне восені 1964 года.

У той час, калі пачаў працаваць ЦУМ "Мінск", праблемы выканання плана тавараабароту не існавала. Тады тавараў не хапала, і таму цумаўскія таваразнаўцы калясілі па ўсім Савецкім Саюзе ў пошуках гэтага самага тавара, здабывалі ўсё, у чым была вострая неабходнасць, дзе толькі можна: у Прыбалтыцы, на Украіне, у розных рэгіёнах Расіі... Па выніках работы за 1965 год Міністэрства гандлю рэспублікі прысудзіла ЦУМу "Мінск" першае месца сярод універмагаў Беларусі з уручэннем Чырвонага Сцяга. Дарэчы сказаць, што і ў далейшым цумаўцы неадназразова выходзілі пераможцамі ў спаборніцтве не толькі універмагаў, гандлёвых прадпрыемстваў рэспублікі, а і ўсяго Савецкага Саюза, бо менавіта яны з'яўляліся пачынальнікамі новых формаў і метадаў гандлю.

У чэрвені 1966 года ў Маскве адбылася ўсесаюзная нарада работнікаў гандлю, на якой прысутнічаў Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў, міністр гандлю СССР А. Строеў. У дакладзе міністра гандлю, што прагучаў на гэтай нарадзе, ЦУМ "Мінск" быў названы адным з лепшых універмагаў краіны па шматлікіх паказчыках.

Тады ж, у чэрвені 1966 года, у час нарады, І. Каленнікава ўзнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. А ўжо ў 1967 годзе Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР адзначыў яго Ганаровай граматай за заслугі ў развіцці гандлю, паляпшэнні гандлёвага абслугоўвання насельніцтва. Тым жа самым Указам яму прысвоілі высокае званне заслужанага работніка гандлю.

У кастрычніку 1969 года яго выклікалі ў ЦК КПБ і прапанавалі пасаду намесніка міністра гандлю рэспублікі. На гэтай працы ён знаходзіўся да чэрвеня 1975 года. Магчыма, што і потым не пайшоў бы ў адстаўку, але раны, атрыманыя ў час вайны, давалі аб сабе знаць усё болей і болей, асабліва турбавала кантузія, атрыманая ў маі 1942 года ў баях пад Наварасійскам. У яго да гэтай пары не праходзіць шум у галаве — гэта ўсё яна, праклятая вайна...

Побач з І. Каленнікавым у ЦУМе "Мінск" працавалі на розных пасадах і ўчастках трыццаць ветэранаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Сярод іх і Герой Савецкага Саюза Міхаіл Сідаравіч Сахненка, які доўгі час з'яўляўся загадчыкам таварнага склада.

— Запомніў я Міхаіла Сідаравіча вось чаму, — заканчвае Іван Іванавіч свае згадкі, — я ўжо гаварыў, што ў той час, калі я ўзначальваў ЦУМ, нас, цумаўцаў, заўсёды адольвала адно і тое ж: дзе ўзяць неабходны тавар? Грошай у людзей хапала, а вось як і чым іх атаварыць — вельмі няпростае пытанне. Выкручваліся, як маглі. Да Дня 8-га Сакавіка я неадназразова камандзіраваў Міхаіла Сідаравіча з Жанай Ліпень, тагачасным выдатным спецыялістам і маім адным з галоўных памочнікаў і дарадцаў, на поўдзень, і яны дастаўлялі самалётам жывыя кветкі: мімозы, гіяцынты, цюльпаны... Гэта сёння кветак мора, а тады...

## ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ

Ужо тады, калі сталічны універмаг толькі-толькі быў здадзены ў эксплуатацыю, усе заўважылі: ён цесны, не хапала ні складскіх, ні гандлёвых плошчаў. Пра гэта мне са скрухай гаварылі і першы ягоны дырэктар І. Каленнікаў, і Ніна Канстанцінаўна Красоўская, якая цяпер на пенсіі, і якая досыць доўгі час з'яўлялася таваразнаўцам, загадчыцай галантарэйнага аддзела.

— Галантарэю мы размяшчалі дзе толькі маглі: на лесвічных пляцоўках, ва ўсіх магчымых закутках, — гаворыць Ніна Канстанцінаўна і, відаць, тое, аб чым яна згадвае, нават сёння, калі, здавалася б, не павінна ніякім чынам яе хваляваць, бо даўно адышло, адплыло ў мінулае, у нябыт, усё ж разварушвае яе колішнія перажыванні, і гэта можна зразумець, бо ўсё, аб чым яна зараз кажа, з'яўлялася яе жыццём, яе лёсам, — і выйсце мы бачылі толькі ў гэтым, бо аб асобным месцейку для галантарэі і думаць нельга было. Аб якім асобным месцы тады можна было гаварыць, калі будаўнікі здалі нам толькі два гандлёвыя ды трэці адміністрацыйны паверхі, а ў цокальным знаходзіліся склады?

Між тым Мінск разрастаўся, большаў, выбіраўся са сваіх старых межаў на далёкія і блізкія ўскраіны, бліжэй да кальцавой, а месцамі нават і за кальцавую дарогу. Колькасць ягоных жыхароў таксама з году ў год павялічвалася, а, значыць, павялічвалася і колькасць пакупнікоў у новым сталічным універмагу.

Тады, калі кіраўнікамі ЦУМа з'яўляліся перш Г. Сухій, а потым Р. Краўчанка, якое яны знаходзілі выйсце? Рабілі розныя перапланіроўкі, перастаноўкі, мянялі тэхналагічнае абсталяванне. На нейкі час, вядома, гэта дапамагала, плошча заставалася адна і тая ж, але ўжо з'яўлялася магчымасць выставіць, вывесіць, паказаць пакупнікам больш тавару, а гэта, безумоўна, уплывала на павелічэнне тавараабароту, на прадукцыйнасць працы, на зарплату ў бок, само сабою, яе росту.

І ўсё ж кардынальна гэта нічога не мяняла. Бо зразумела, што без карэннай рэканструкцыі не абысціся. Дзеля гэтага патрэбны былі грошы і немалыя. Апроч таго, паўставала ў сувязі з гэтым яшчэ адно: каб пачынаць рэканструкцыю, трэба зачыняць універмаг надоўга, напэўна, не на адзін год. А хто гэта дазволіў бы? ЦУМ даваў у рэспубліканскі дый ва ўсесаюзны бюджэты немалыя грошы, і таму, вядома, улады і слухаць не захацелі б пра тое, каб ЦУМ спыняў сваю гандлёвую дзейнасць на няпэўны час. А хіба на самую рэканструкцыю не патрэбны былі грошы? Адкуль іх браць?

Адным словам, зачараванае кола, выйсця з якога ніхто не бачыў. Але пакрысе, паціху ды памалу справа ўсё ж зрушылася з месца. Ужо ў 1982 годзе тагачасны дырэктар ЦУМа Г. Шавялевіч прапанаваў варыянт скарыстання сквера, што каля універмага, для ўзвядзення прыкладна такой жа гандлёвай залы, як і ў існуючым памяшканні, злучыўшы іх закрытым праходам. Аднак, галоўнае архітэктурна-планіровачнае ўпраўленне Мінгарвыканкама гэты варыянт адхіліла.

Па-сапраўднаму рэканструкцыя, а дакладней, другое нараджэнне ЦУМа "Мінск" пачалося з таго часу, калі ягоным дырэктарам стаў Вальдэмар Чэслававіч Юшкевіч — чалавек у гандлі рэспублікі не новы, бо да гэтага часу ён колькі гадоў з'яўляўся намеснікам начальніка ўпраўлення гандлю Мінгарвыканкама.

— Перыяд рэканструкцыі выпаў на нялёгкі час, — гаворыць Вальдэмар Чэслававіч, — якраз, як на ліха, ішоў 1990 год, распад СССР, нястрымная інфляцыя, дэфіцыт тавараў, уводзілася талонная сістэма і з паліц магазінаў скуплялася ўсё, што на іх мелася. Нездарма адзін з рэкламных агентаў у тую пару прапанаваў даць рэкламны псеўданім універмагу — "Цытадэль гандлю". Яно так і выглядала на самай справе, бо універмаг акружала будаўнічая агароджа, каля варот якой перад адкрыццём збіраўся натоўп пакупнікоў, якіх работнікі міліцыі строілі групамі па 30—40 чалавек і суправаджалі ў магазін.

Нягледзячы ні на што, рэканструкцыя ўсё ж пачалася. На гэта мала хто мог адважыцца, але Вальдэмар Чэслававіч такі ўжо чалавек — калі бярэцца за што, то не зважае ні на якія перашкоды. Характар у яго цвёрды, настойлівы. Гэта я сцвярджаю з упэўненасцю, бо ведаю яго даўно, мо каля дваццаці гадоў, як пазнаёміўся з ім, і заўсёды, калі ні сустрэну яго, калі ні ўбачу, заўважаю, што ён ані не мяняецца. Сёння ў гандлі працаваць хіба проста і лёгка? А ЦУМ "Мінск", які ўзначальвае ён з 1987 года, як быў флагманам гандлю рэспублікі яшчэ з той, савецкай, пары, то такім і застаўся. І я разумею, што гэта ў многім дзякуючы яму, дырэктару, які ўмее ўбачыць і прадбачыць, ведае, што трэба рабіць, каб пакупнік, прыйшоўшы ў ЦУМ, вяртаўся з магазіна не з пустымі рукамі.

— Як было не пачынаць рэканструкцыі? — разважае Вальдэмар Чэслававіч і ў гэтых развагах быццам вяртае і сябе, і мяне ў канец 1989 года. — Напрыканцы васьмідзесятых ЦУМу споўнілася дваццаць пяць гадоў, і за гэты час падземныя камунікацыі, трубы значна паднасіліся, час ад часу адбываліся затапленні, а ў нас жа ў падвале знаходзіліся склады з таварам... Яшчэ горш з пажарнай бяспекай... Так што не толькі з-за недахопу плошчаў даваліся пачынаць перабудоўваць універмаг...

Пасля закрыцця універмага частка плошчаў адчыняецца для абслугоўвання пакупнікоў. Дзеля таго ж самага, каб зарабляць сродкі на вядзенне рэканструкцыі, а таксама, каб захаваць працоўны калектыў, былі адчынены два філіялы: магазін "Камароўскі" па вуліцы В. Харужай і "Тавары для жанчын" па вуліцы Куйбышава, дзе працаўладкаваліся дзвесце работнікаў універмага.

У рэшце рэшт 22 верасня 1994 года падпісваецца акт дзяржкамісіі аб уводзе ў эксплуатацыю першай і другой чаргі рэканструкцыі. Пачыналася будаўніцтва трэцяй чаргі, якое адбывалася больш гладка, бо ўжо быў накоплены вопыт, вырашаны пытанні па якасці, па забеспячэнні матэрыяламі і абсталяваннем.

У выніку ўсё скончылася 15 снежня 1997 года, калі ўступіла ў строй і трэцяя частка рэканструкцыі. Тады ж і наведаў універмаг Прэзідэнт дзяржавы А. Р. Лукашэнка. Усе, хто сустракаў яго, радаваліся неймаверна, казалі, што заканчэнне рэканструкцыі, па сутнасці, другое нараджэнне ЦУМа "Мінск". Яно і сапраўды так, бо агульная плошча павялічылася намнога і складае цяпер 26,7 тысячы квадратных метраў, гандлёвая — 8,5 тыс. кв. м., складская — 5,6 тыс. кв. м. Значна палепшыліся сацыяльна-бытавыя ўмовы для работнікаў. Бо цяпер ва універмагу працуюць кафэ на 120 месцаў, два бары, цырульня, спартзала, актавая зала, з'явіўся медыцынскі цэнтр, гардэроб з душавымі. Механізаваны пагрузачна-разгрузачныя работы. Для разгрузкі тавараў маюцца дзве рампы на восем месцаў, устаноўлены тры пасажырскія ліфты, у гандлёвай зале дзейнічае восем эскалатараў, што, безумоўна, паспрыяла для наведвання пакупнікамі ўсіх паверхаў.

— На скрыжаванні двух вякоў ЦУМ "Мінск" апынуўся ў няпростай сітуацыі, — заканчвае Вальдэмар Чэслававіч, — раней у нас не хапала тавараў, а потым нечакана ды неспадзявана надышла пара, калі гэтага тавару заваліся, а людзі збяднелі... Да сённяшняга дня гэтак... Стыхія рынку... Але мы да яе падрыхтаваліся... Цудоўна, што своечасова спахапіліся, правялі рэканструкцыю, якая для нас, безумоўна, як другое нараджэнне, бо хіба сённяшні ЦУМ параўнаеш з тым, ранейшым, які некалі ўвялі ў строй восенню 1964 года?

З ім нельга не пагадзіцца, бо і знешні, і ўнутраны выгляд універмага змяніўся да непазнавальнасці, вядома, у лепшы бок. Галоўная сутнасць гэтых зменаў у тым, што ЦУМ "Мінск" на сённяшні дзень — вядучае гандлёвае прадпрыемства Беларусі, яно — жыватворная крыніца папаўнення гарадскога і рэспубліканскага бюджэтаў.

**Іван КАПЫЛОВІЧ**



***НА ЗДЫМКАХ:** Цэнтральны універмаг; сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з калектывам ЦУМа, а таксама пакупнікамі універмага. Снежань 1997 г.; першы дырэктар сталічнага ЦУМа І. КАЛЕННІКАЎ у час наведвання ім Сапун-гары ў Севастопалі — горадзе, які ён вызваляў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

## КОНКУРСЫ

• Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Рэспубліканскі цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя праводзіць адкрыты рэспубліканскі конкурс на стварэнне лепшага плаката пад дэвізам "Небяспека — СНІД".

Галоўнай мэтай конкурсу, які праводзіцца з 1 кастрычніка па 16 снежня 2003 года, з'яўляецца адлюстраванне сродкамі плаката глабальнай небяспекі СНІД — цяжкага інфекцыйнага захворвання, з якім змагаецца чалавецтва планеты.

Арыгіналы плакатаў, якія наклейваюцца на цвёрдую аснову памерам 60х80 см, выконваюцца ў тэхніцы, спрыяльнай аўтару (гуаш, тэмпера, фотамантаж і інш.).

Фотаплакаты прадстаўляюцца ў адрэтушаваным выглядзе. На адваротным баку плакат пазначаецца дэвізам з шасцізначнай лічбы (вышыня знакаў — 1 см). Пад гэтым жа дэвізам прадстаўляецца заклееены канверт, у якім павінны знаходзіцца звесткі аб аўтары і яго адрас.

Арыгіналы плакатаў, прадстаўленыя на конкурс, якія не адпавядаюць умовам конкурсу, журы не разглядае.

За лепшыя плакаты ўстанаўліваюцца тры прэміі:

адна першая — 500000 руб.;
адна другая — 300000 руб.;
адна трэцяя — 200000 руб.

Журы мае права, зыходзячы з прадстаўленых прапаноў, мяняць колькасць прэмій і іх памеры ў межах вызначанай агульнай сумы прэмій. Прэміраваныя плакаты будуць друкавацца паліграфічным спосабам, астатнія — у месячны тэрмін пасля падвядзення вынікаў конкурсу вяртаюцца аўтарам.

Незапатрабаваныя плакаты знішчаюцца з афармленнем адпаведнага ліста. Друкаваныя плакаты з'яўляюцца ўласнасцю Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя і выкарыстоўваюцца ўладальнікам у справе пашырэння барацьбы са СНІДам.

**Удзельнікі конкурсу ў вызначаны тэрмін падаюць свае прапановы журы па адрасе: г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 47, Музей сучаснага выяўленчага мастацтва.**

*Заўвагі:*

*Кансультацыі адносна тэматыкі конкурсу, тлумачальныя матэрыялы ўдзельнікі конкурсу могуць атрымаць у Рэспубліканскім цэнтры (220030 г. Мінск, вул. Ульянаўская, 3, тэл.: 227-42-16);*

*згодна з рэкамендацыяй Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў плакатах па барацьбе са СНІДам нельга выкарыстоўваць выявы альбо сімволіку, якая адмоўна ўздзейнічае на псіхіку людзей.*

## БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ НА 2003 год У АСІСТЭНТУРУ-СТАЖЫРОЎКУ з адрывам ад вытворчасці па спецыяльнасці ФАРТЭПІЯНА**

**У асістэнтуру-стажыроўку Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прымаюцца асобы, якія маюць вышэйшую адукацыю і з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, асобы беларускай нацыянальнасці — грамадзяне замежных краін, грамадзяне Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Рэспублікі Таджыкістан, а таксама замежныя грамадзяне, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь. Асобы, якія паступаюць у асістэнтуру-стажыроўку падаюць заяву на імя рэктара акадэміі. Да заявы дадаюцца наступныя дакументы:**

**· асабісты лісток па ўліку кадраў, аўтабіяграфія і дзве фотакарткі 3х4;**

**· выпіска з пратакола пасяджэння савета факультэта для асоб, якія рэкамендаваны для паступлення ў асістэнтуру-стажыроўку непасрэдна пасля заканчэння ВНУ;**

**· копія дыплома аб вышэйшай адукацыі;**

**· выпіска з працоўнай кніжкі;**

**· рэферат па выбранай спецыяльнасці;**

**· пашпарт, дыплом аб вышэйшай адукацыі прад' яўляецца асабіста.**

**Паступаючыя здаюць уступныя экзамены па спецыяльнасці, калёквіуму і замежнай мове.**

**Прыём дакументаў праводзіцца з 13 па 16 кастрычніка 2003 года.**

**Уступныя экзамены - з 20 па 28 кастрычніка 2003 года.**

**Даведкі па адрасе: г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30, каб.№ 122, тэл.226-11-76.**

## БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ АКАДЭМІЯ МАСТАЦТВАЎ

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнні пасад прафесарска-выкладчыцкага складу:**

**— прафесара кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва;**

**— дацэнта кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва;**

**— дацэнта кафедры інтэр'ера і абсталявання;**

**— дацэнта кафедры дызайну.**

**Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.**

**Заявы і дакументы, згодна ўмове аб конкурсах, падаваць на імя рэктара акадэміі на адрас: 220012, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў, тэл. 232-77-34.**



ВІНШУЕМ!

## УСЕ КВЕТКІ — МАЭСТРА

"Эпохай Елізар'ева" называюць найноўшую гісторыю жыцця Беларускага балета 30 апошніх гадоў. Гэтае спалучэнне слоў, як магічны гук, лунала ў атмасферы вечара 7 кастрычніка, падчас урачыстай імпрэзы ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Беларусі. Тэатр і яго шматлікія госці, сярод якіх былі высокія афіцыйныя асобы, вядомыя дзеячы мастацтва, журналісты, замежныя дыпламаты, аматары харэаграфіі, віншавалі мастацкага кіраўніка і дырэктара Валянціна Елізар'ева з 30-годдзем творчай дзейнасці. Адбыўся і паказ ужо легендарнага і неўміручага спектакля "Стварэнне свету", адной з першых пастановак маэстра на мінскай сцэне... Аднак больш падрабязна пра ўражанні таго святочнага вечара — у адным з наступных нумароў "ЛіМа".

С.Б.

*ФОТА М. ЗАМУЛЕВІЧА*



АКЦЭНТ

## НЕ ЎПУСЦІЦЕ "ПТАХА"!

Пра монаоперу А. Залётнева "Адзінокі птах" на старонках нашага тыднёвіка гаварылася неаднойчы. Нагадаем, што нарадзіўся гэты твор дзякуючы ініцыятыве, сцэнічнаму досведу і рэжысёрскай волі Г. Дзягілевай — мастацкага кіраўніка Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч". Менавіта яна ўбачыла творчую натуру нашага вялікага земляка Адама Міцкевіча і яго драматычны лёс праз жанравую прызму музычнага тэатра. Прэм'ера, падрыхтаваная пару сезонаў таму Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі з маэстра Пятром Вандзілоўскім, капэлай "Sonorus" (мастацкі кіраўнік Аляксей Шут, салістка Таццяна Пятрова) і выканаўцам галоўнай партыі Міхаілам Жылюком, адбылася на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў мастацкім афармленні Барыса Герлавана.

Спектакль — жыве і неўзабаве будзе паказаны ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага. Паказ прымеркаваны да 70-годдзя Беларускага саюза кампазітараў і абвешчаны на 20 кастрычніка.

С. БЕРАСЦЕНЬ

*НА ЗДЫМКУ: заслужаны артыст Беларусі Міхаіл ЖЫЛЮК у монаоперы "Адзінокі птах".*



### Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ
***пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66***

17 — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
19 (раніца) — К. Хачатуран "Чыпаліна"
21 — А. Адан "Жызель"
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

### Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы
***пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41***

18 — М. Мусаргскі "Хаваншчына" (прэм'ера)
19 — Д. Расіні "Севільскі цырульнік"
23 — В. А. Моцарт "Чарадзейная флейта"
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

### Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі
***вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08***

17 — Э. Сагалаў "Палёты з анёлам"
18 — М. Адамчык, М. Клімковіч "Чорны квадрат", кабарэдэтэктыў
19 — Д. Альмагор "Толькі дурні сумуюць", спектакль-прытча
21 — А. Курэйчык "Понцій Пілат", драма
23 — С. Алексіевіч "Чарнобыльская малітва"
24 — С. Кавалёў "Балада пра Бландою"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

### Беларускі Дзяржаўны маладзёжны тэатр
***вул. Даумана, 1, тэл. 289-32-62***

17, 22 — Б. Шоу "Пігмаліён"
18 — І. Б. Зінгер "Тойбеле і яе дэман"
19 — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
22 — М. Куліш "Казанне пра Гуску..." (прэм'ера).
24 — А. Астроўскі "Позняе каханне"
Пачатак вячэрніх спектакляў а 19-й гадзіне.

### Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"
***(касцёл св. Сымона і св. Алены, пл. Незалежнасці, 15, тэл. 220-56-32)***

20 — А. Залётнеў "Адзінокі птах", рамантычная монаопера (у памяшканні Нацыянальнага акадэмічнага драмтэатра імя М. Горкага)
Пачатак спектакля а 19-й гадзіне.

### Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага
***вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66***

17 — Я. Купала "Раскіданае гняздо"

#### Малая сцэна

17 — Э. Радзінскі, Ф. Дастаеўскі "Рулетка"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

### Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Купалы
***вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17***

17 — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж"
18 — А. Курэйчык "Згублены рай"
19 — М. Чарот, Далецкія "Ажаніцца — не журыцца"
20 — М. Сайман "Я не пакіну цябе..."
23 — А. Астроўскі "Свае людзі — паладзім"
25, 25 — У. Бутрамееў "Страсці па Аўдзею"

#### Малая сцэна

17 — Я. Баршчэўскі "Беларусь у фантастычных апавяданнях"
18 — А. Папова "Муж для паэтэсы"
20 — Ф. Шылер "Каварства і каханне"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне



*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Каварства і каханне".*
*ФОТА А. ДЗМІТРЫЕВА*

### Тэатр-студыя кінаакцёра
***пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11***

17 — Э. Сагалаў "Айседора. Танец кахання"
18, 19 — Б. Шоу "Пігмаліён"
21, 22 — А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

У СТАЛІЦЫ

## ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ

*пр. Ф. Скарыны, 44а*
*тэл. 284-44-33, 284-47-09*



**21 — Віртуозныя дыялогі.** Дыпламанты міжнародных конкурсаў Наталля КОРСАК (домра), Кацярына МАРЭЦКАЯ (фартэпіяна), з удзелам лаўрэата Міжнароднага конкурсу Мікалая Марэцкага. Творы Цыганкова, Сарасатэ, Паганіні, Мендэльсона.

**23 — "Галантнае запрашэнне".** Грае Мінскі струнны квартэт: Аляксей Уласенка, Юрый Герман (скрыпкі), Уладзімір Хімарода (альт), Дзяніс Скляроў (віяланчэль).

*НА ЗДЫМКУ: Мікалай МАРЭЦКІ.*
ФОТА А. МАЦЮША

КАНЦЭРТЫ

## ПЯТЫ СЕЗОН



Мінчукі-меламаны з пачаткам рамонтных работ у будынку Беларускай дзяржаўнай філармоніі пазбавіліся не толькі вялікай канцэртнай залы. Зачынілася і ўтульная "Музычная гасцёўня", якая колькі гадоў таму з'явілася ў філарманічных сценах і вечарыны ў якой наладжвала ды вяла піяністка Таццяна Старчанка. Салістка філармоніі, яна збірала даволі шырокае, але і амаль нязменнае кола сваіх калег, актыўна сама ўдзельнічала ў праграмах. Яны, незалежна ад індывідуальных планаў музыкантаў, абавязкова рыхтаваліся хаця б да дзвюх нагод: Міжнароднага дня музыкі (1 кастрычніка) ды "агульнанароднага" дня смеху (1 красавіка).

Калі б не энтузіязм Таццяны Старчанкі ды яе сяброў, пра "Музычную гасцёўню" мы ўжо гаварылі б у мінулым часе. А так — з прыемнасцю паведамляем, што 3-га кастрычніка, амаль у Міжнародны дзень музыкі, "Гасцёўня" адкрыла свой пяты сезон. Канцэрт адбыўся ў Зале Беларускага саюза кампазітараў. У праграме, апроч заўсёднікаў "Музычнай гасцёўні", сярод якіх дамрыст і мандалініст Мікалай Марэцкі, флейтыст Якаў Гелер, спевакі Таццяна Громава, Уладзімір Громаў ды Вольга Сотнікава, удзельнічаў і колішні мінчук, цяпер — жыхар Швецыі, Міхаіл Казінік. Наш госць, і зямляк, вядомы ў свой час неардынарнымі выступленнямі ў мінскіх канцэртах, развіў сваё майстэрства і як скрыпач-выканаўца, і як музыказнаўца-лектар, запатрабаваны і ў Швецыі, і за яе межамі. Для больш маладой часткі публікі дуэт Т. Старчанкі ды М. Казініка стаўся яркім адкрыццём.

Дарэчы, адкрыццём на пачатку філарманічнага сезона стаўся дуэт Міхаіла Казініка і знанай піяністкі, педагога, прафесара Беларускай акадэміі музыкі Зоі Качарскай. Іх канцэрт адбыўся 22 верасня ў Зале камернай музыкі.

Я. КАРЛІМА

*НА ЗДЫМКУ: заўсёднік "Музычнай гасцёўні" флейтыст Якаў ГЕЛЕР.*

*ФОТА А. МАЦЮША*




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1607
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.10.2003 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3816

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12